# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 25 (2583)

25 чэрвеня 1998 г.

Выдаецца з 1955 г.

Цана 1500 рублёў.

## НЯСВІЖУ — 775



## ГОРАД ГОНАРУ І СЛАВЫ

**Нясвіж... Так і карціць назваць яго "вечным горадам". Тут на кожным кроку подых даўніны, стагоддзяў, што праляцелі над горадам. Што ж убачылі нашы карэспандэнты ў сённяшнім Нясвіжы? Пра гэта іх рэпартаж на 3-й стар.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# ПАЛІТЫЧНЫЯ ПОГЛЯДЫ МІКОЛЫ ГУСОЎСКАГА

**(ДА 475-годдзя ВЫХАДУ Ў СВЕТ ПАЭМЫ "ПЕСНЯ ПРА ЗУБРА")**

Дзень 29 мая 1453 года стаў трагічным для сусветнай гісторыі: пасля двухмесячнай асады турэцкая армія авалодала сталіцай Візантыі — Канстанцінопалем. Назаўсёды спыніла сваё існаванне Усходняя Рымская імперыя. Такім чынам, перашкода, што надзейна абараняла Еўропу ад уварвання турак-асманаў, была разбурана. Баланс сіл у стратэгічным процістаянні паміж светам хрысціян і мусульман быў парушаны. Цяпер турэцкія войскі з берагоў Басфора маглі ў любы момант абрушыцца на еўрапейскі кантынент. Над еўрапейскай цывілізацыяй навісла смяротэльная пагроза.

Аднымі з першых яе злавесны подых адчулі паўднёвыя землі Вялікага Княства Літоўскага. З другой паловы XV стагоддзя Турцыя разам са сваім васалам — крымскім ханам пачала рабіць вераломныя грабежныя напады на тэрыторыю ВКЛ з мэтай захопу здабычы, палонных, якія потым прадаваліся ў рабства, атрымання даніны і выкупаў. Пачынаючы з XVI стагоддзя гэтыя разбойныя, спусташальныя набегі па сваіх маштабах і выніках станавіліся ўсё больш сумнымі і трагічнымі. Эфектыўна процістаяць ім ВКЛ і Каралеўству Польскаму станавілася ўсё цяжэй: не хапала сіл, не было рэгулярнай арміі. Паступова ў грамадскай свядомасці выспявала ідэя саюза хрысціянскіх дзяржаў Еўропы для адпору агрэсіі Асманскай імперыі.

У 1518 годзе па даручэнні ўнука Ягайлы, караля польскага і вялікага князя літоўскага Сігізмунда I Старога (кіраваў з 1506 па 1548 гады), з Кракава ў Заходнюю Еўропу адправілася дыпламатычная місія. Спачатку яна павінна была наведаць Аўгсбург, рэзідэнцыю імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Максіміліяна I (кіраваў з 1493 па 1519 год), а затым адправіцца ў Рым, да папы Льва X. Узначаліў місію выдатны дыпламат, плоцкі епіскап Эразм Цёлк (1474—1522). Ён павінен быў схіліць палітычную эліту Еўропы і, у першую чаргу, імператара і папу, да стварэння кааліцыі хрысціянскіх дзяржаў, накіраванай супраць Турцыі. Разам з Э. Цёлкам у склад пасольства ўвайшоў і вядомы славянскі паэт і палітычны мысліцель XVI стагоддзя, славуты сын беларускай зямлі — Мікола Гусоўскі. Менавіта яму ўдалося сфармуляваць і выказаць у сваім бессмяротным творы "Песня пра зубра" адну з самых важных палітычных ідэй таго часу — **аб'яднанне еўрапейскіх дзяржаў перад пагрозай турэцкага нашэсця.** Гэта паставіла яго паэму ў лік лепшых як мастацкіх, так і палітычных твораў эпохі Адраджэння, а яе аўтара вылучыла ў лік выдатных палітычных мысліцеляў таго часу.

Ні дакладная дата, ні месца нараджэння М. Гусоўскага невядомыя. Прынята лічыць, што ён нарадзіўся каля 1480, а памёр пасля 1533 года. Невядома таксама, дзе, калі і якую адукацыю атрымаў паэт. Вялікі ўплыў на жыццё Гусоўскага аказала знаёмства з сакратаром канцылярыі вялікага князя літоўскага Аляксандра Казіміровіча (кіраваў з 1492 па 1506 год), выпускніком Кракаўскага ўніверсітэта Эразмам Цёлкам, якога гісторыкі літаратуры часта называюць па-лацінску — Вітэліусам. Гэтае знаёмства адбылося ў Вільні ў канцы XV стагоддзя і зрабіла прыкметны ўплыў на далейшы лёс паэта. (Э. Цёлк займаў пасаду сакратара велікакняжацкай канцылярыі з 1494 па 1500 год).

М. Гусоўскі звярнуў на сябе ўвагу незвычайнымі здольнасцямі. Таму, калі Э. Цёлк, выкарыстоўваючы апекаванне велікакняжацкай улады, стаў адным з іерархаў каталіцкай царквы, атрымаўшы сан і пасаду плоцкага епіскапа (каля 1506 года), М. Гусоўскі апынуўся ў яго акружэнні. На доўгія гады плоцкі епіскап стаў яго мецэнатам. Знаходжанне М. Гусоўскага ў Плоцку, у акружэнні Э. Цёлка, — усебакова адукаванага чалавека, выдатнага дыпламата (двойчы пасылаўся ў Рым у 1501 і 1504 гадах), дзе дамінавалі гуманістычныя ідэі, аказала вялікі ўплыў на станаўленне і фарміраванне светапогляду М. Гусоўскага. Затым, будучы ўжо ў складзе беларуска-літоўскай дыпламатычнай місіі, якая доўгі час знаходзілася ў краінах Заходняй Еўропы (1518—1522), М. Гусоўскі меў вялікія магчымасці цесна кантактаваць з прадстаўнікамі гуманістычнай думкі заходнееўрапейскіх краін і асабліва з італьянскімі гуманістамі з акружэння рымскага папы Льва X.

Папа (яго свецкае імя Джавані Медычы, 1475—1521) паходзіў з сям'і вядомага правіцеля Флярэнцыі Ларэнца "Пышнага" Медычы, быў прыхільнікам гуманістычных ідэй, велікасвецкага ладу жыцця.

У гады папства (1513—1521) ён акружыў сябе вядомымі паэтамі, скульптарамі, мастакамі, сярод якіх вядучае

**(Працяг на 4-й стар.).**

ПЕРШЫ ЮБІЛЕЙ «РОДНАГА СЛОВА»

# «ЯК ЖЫЦЬ — ДЫК ЖЫЦЬ ДЛЯ БЕЛАРУСІ...»

У студзені месяцы мінула дзесяць гадоў з таго часу, як выйшаў у свет першы нумар навукова-метадычнага часопіса "Роднае слова". Напачатку і аж да 1992 года ён меў іншую назву "Беларуская мова і літаратура ў школе", але ягоная задача заставалася нязменнай: дапамагчы школьнаму настаўніку выхаваць маладое пакаленне нацыянальна свядомымі, гарманічна развітымі грамадзянамі Беларусі. Безумоўна, часопіс найперш адрасуецца настаўнікам беларускай мовы і літаратуры. Тут яны знаходзяць неабходныя матэрыялы па методыцы выкладання, знаёмяцца з перадавым вопытам сваіх калег. Але шмат новага, пазнавальнага для сябе знойдзе ў часопісе кожны, каго цікавіць менавіта роднае слова. Так, з раздзела "Філалогія" можна даведацца пра дасягненні лінгвістычнай навукі ў нашай краіне, праблемы развіцця мовы, яе адметнасці і месца ў шэрагу іншых моў свету.

Разнастайныя матэрыялы чытач знойдзе ў раздзеле "Культура Беларусі". Гэта артыкулы з гісторыі развіцця беларускага тэатра, кінематографа, выяўленчага мастацтва, архітэктуры, нататкі пра нашых слынных сучаснікаў — музыкаў, артыстаў, мастакоў, вучоных. Унікальныя, на нашу думку, матэрыялы друкуюцца ў рубрыцы "Анталогія беларускага рамансa", якую нязменна, на працягу апошніх гадоў, вядзе вядомы оперны спявак, барытон Віктар Скорабагатаў. Цікавыя публікацыі змяшчае часопіс у раздзела "На ростанях". Напрыклад, у мінулым годзе тут друкаваліся змястоўныя матэрыялы пра кампазітара Леаніда Захлеўнага, цымбаліста-віртуоза, дырыжора і педагога Іосіфа Жыновіча, выдатнага Алеся Гаруна як гісторыка і дэлегата Усебеларускага з'езда 1917 года, Каруся Каганца як мастака-графіка, гісторыка Мікалая Улашчыка, успаміны пра Пімена Панчанку і Максіма Танка, цэлая падборка

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**



**НА ЗДЫМКУ:** супрацоўнікі "Роднага слова" (першы злева — **М. ШАВЫРКІН**) у Акінчыцах — Коласавых мясцінах.

**Фота Анатоля КАЛЯДЫ.**

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

БЕЛАРУСЬ І СВЕТ

### ВІЗІТ У ЕГІПЕТ

Першы візіт дзяржаўнай дэлегацыі нашай краіны ў Егіпет кіраўнік беларускай дзяржавы Аляксандр Лукашэнка ахарактарызаваў як паспяховы і плённы. Аб гэтым ён заявіў журналістам на прэс-канферэнцыі, якая адбылася ў Каіры. І падставы для такой ацэнкі ёсць.

У ходзе візіту Прэзідэнт нашай краіны некалькі разоў сустракаўся з кіраўніком Егіпта Мухамедам Хосні Мубаракам.

У ходзе візіту было падпісана дзесяць дакументаў. З іх два маюць палітычны характар. Гэта сумесная беларуска-егіпецкая заява і міждзяржаўнае пагадненне аб асновах адносін і супрацоўніцтва. А восем з'яўляюцца міжурадавымі пагадненнямі. Самым важным сярод іх, на думку Аляксандра Лукашэнкі, з'яўляецца гандлёвае пагадненне.

Яшчэ адным важным дасягненнем ва ўмацаванні эканамічнага супрацоўніцтва дзвюх краін Аляксандр Лукашэнка назваў дасягнутую з кіраўніцтвам Егіпта дамоўленасць аб стварэнні сумеснай камісіі па гандлю, эканамічнаму і навукова-тэхнічнаму супрацоўніцтву. Узровень тавараабароту паміж Егіптам і Беларуссю ў аб'ёме амаль 53 мільёнаў долараў ЗША, які існаваў да апошняга часу, не задавальняе ні адну з дзяржаў. Абодва бакі зацікаўлены ў тым, каб гэты паказчык значна павялічыўся.

Добрыя перспектывы, на думку Аляксандра Лукашэнкі, ёсць таксама і ва ўзаемаадносінах дзвюх краін у галіне навукі і вышэйшай адукацыі.

САДРУЖНАСЦЬ

### АДУКАЦЫЙНАЯ ПРАСТОРА

Адным з выніковых дакументаў пасяджэння Выканаўчага камітэта Саюза Беларусі і Расіі, якое прайшло ў Мінску, стала пастанова аб стварэнні ў Мінску філіяла Маскоўскага дзяржаўнага сацыяльнага універсітэта Міністэрства працы і сацыяльнага развіцця Расійскай Федэрацыі (МДСУ).

Як паведамілі ў прэс-службе пасольства Беларусі ў Расіі, рэктар універсітэта прафесар Васіль Жукаў лічыць данае рашэнне дальнабачным і своечасовым. Заханне адзінай адукацыйнай прасторы на тэрыторыі краін СНД — важная праблема, якая мае і сацыяльнае, і грамадзянскае вымярэнне, лічыць прафесар.

Міністэрствам фінансаў Беларусі і Расіі даручана выдзеліць у 1998 годзе на фінансаванне мінскага філіяла універсітэта за кошт саюзнага бюджэту 1 мільён 50 тысяч расійскіх рублёў на парытэтнай аснове.

Тэрытарыяльныя адукацыйныя праграмы МДСУ, які мае 28 філіялаў, разлічаны на атрыманне вышэйшай універсітэцкай сацыяльнай адукацыі.

НІХТО НЕ ЗАБЫТЫ



На пяты дзень вайны фашысцкая бомба папала ў будынак сталовай, дзе абедалі байцы 10-га мотастралковага батальёна НКУС, што ахоўвалі чыгуначны мост праз раку Днепр у Рэчыцы. 18 чалавек, сярод якіх была і жанчына-повар, загінулі на месцы. Пахаваўшы іх спешна, нашы войскі працягвалі адступаць, а праз некаторы час ад пахавання не засталося нават слядоў. І толькі больш чым праз паўстагоддзя сваячка аднаго з пахаваных байцоў прыехала ў Рэчыцу з Віцебска і паказала "пахаронку", у якой было сказана, што "за 150 метраў ад чыгуначнага моста на захад пахаваныя гэтыя людзі".

Пошукавы атрад Міністэрства абароны зрабіў некалькі шурфаў, перш чым было выяўлена месца пахавання. Знайшлі чатыры медальёны, асабістыя рэчы і нават грошы воінаў. Асоба аднаго з іх ужо ўстаноўлена, вядзецца работа па вызначэнню астатніх загінуўшых.

НА ЗДЫМКУ: астанкі васемнаццаці воінаў пахаваны ў брацкай магіле на беразе Дняпра.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.

ПАДТРЫМКА ПРАФСАЮЗАЎ

### ЗАРАБОТНАЯ ПЛАТА ВУЧОНЫХ

Шэраг галіновых навуковых арганізацый рэспублікі звярнуўся ў Федэрацыю прафсаюзаў Беларусі з просьбай дапамагчы стабілізаваць фінансавае становішча.

Узнікшая ў галіновай навуцы сітуацыя сапраўды выклікае трывогу. Колькасны састаў супрацоўнікаў за апошнія гады зменшыўся ў два разы. Палову працуючых складаюць людзі ва ўзросце 50—55 гадоў. Рэальная заработная плата ў параўнанні з 1991 годам таксама знізілася амаль у два разы. Да таго ж большасць навукова-даследчых інстытутаў зведвае значныя фінансавыя цяжкасці па прычыне недастатковага фінансавання работ, выкананых яшчэ ў 1997 годзе па рэспубліканскіх праграмах.

ФПБ накіравала ўраду краіны пісьмо, у якім прапаноўвала меры па падтрымцы галіновых НДІ. Яны ўжо разгледжаны ў Савеце Міністраў. Усе работы, выкананыя навукова-даследчымі ўстановамі, указаныя ў спісе ФПБ, аплачаны заказчыкамі ў поўным аб'ёме.

Міністэрствам працы і фінансаў дадзена даручэнне дадатковa прапрацаваць пытанні павышэння ўзроўню аплаты працы навуковых і навукова-педагагічных работнікаў.

БЕЛАРУСКІЯ ШЫНЫ



Беларускі шынны камбінат "Белшына" — адно з самых буйных прадпрыемстваў у Еўропе, якое выпускае каля 150 тыпапамераў шын для легкавых, грузавых, вялікагрузных аўтамабіляў, будаўніча-дарожных і пад'ёмна-транспартных машын, электратранспарту, аўтобусаў, трактароў і сельскагаспадарчых машын.

Каля 90 працэнтаў шын, што выпускае камбінат, з'яўляюцца радыяльнымі. Усе віды прадукцыі абаронены патэнтамі па двух параметрах: канструкцыя і вонкавы выгляд. Сучасны тэхнічны ўзровень аснашчэння прадпрыемства, кваліфікаваны персанал, укараненне перадавых дасягненняў навукі і тэхнікі, культура і арганізацыя працы гарантуюць высокую якасць выпускаемай прадукцыі. Дзякуючы надзейнасці, даўгавечнасці, камфартабельнасці, беларускія шыны заваявалі высокую рэпутацыю як у айчынных, так і ў замежных спажыўцоў. Камбінат "Белшына" падтрымлівае ўзаемавыгадныя дзелавыя адносіны з 32 краінамі блізкага і далёкага замежжа.

Да канца года на прадпрыемстве асвояць 22 віды новых шын, а рост вытворчасці з пачатку года склаў 36,9 працэнта.

НА ЗДЫМКУ: аддзел тэхнічнага кантролю.

Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.

ЧАЛАВЕК І ЯГО СПРАВА

Доктар медыцынскіх навук, прафесар Уладзімір Цыркуноў — адзін з вядучых гепатолагаў Беларусі. Гэта дзякуючы яго энтузіязму і высокай прафесійнай падрыхтоўцы ў Гродне створаны Рэспубліканскі гепаталагічны цэнтр.

НА ЗДЫМКУ: кіраўнік гепаталагічнага цэнтра, дырэктар Гродзенскай клінікі інфекцыйных хвароб і гепаталогіі прафесар Уладзімір ЦЫРКУНОЎ.

Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ, БелТА.

СЕМІНАРЫ

### ЖАНЧЫНЫ Ў ПРЭСЕ

Сродкі масавай інфармацыі Беларусі, паводле даных статыстыкі, толькі каля аднаго працэнта газетнай плошчы і крыху больш чым тры працэнты тэлевізійных і радыёпраграм аддаюць жаночай тэме.

Прычым, у дзяржаўных СМІ гэта праблематыка захоўвае традыцыйныя аблічча жанчыны: працаўніцы, маці, жонкі. У камерцыйных і ведамасных выданнях часцей прысутнічаюць матэрыялы, прысвечаныя сацыяльным аспектам: жаночая ахова здароўя, ранняе мацярынства, мода і ўзаемаадносіны паміж поламі. Гэтыя факты прыводзіліся на праведзеным семінары "Жанчына і масмедыя. Трансфармацыя гендэрных стэрэатыпаў", арганізаваным Жаночым адукацыйна-кансультацыйным цэнтрам.

Адзначалася, што сучасны беларускі друк, а значыць і грамадская свядомасць, пакуль негатыўна ставяцца да жанчыны — бізнесмена, палітыка, буйнога кіраўніка. І, значыць, яшчэ не сфарміравана ў грамадстве запатрабаванне на поўнае раскрыццё здольнасцей жанчыны.

ПРАЦЯГ БУДАЎНІЦТВА

### САНАТОРЫЙ «ВЯЖУЦІ»

Савет Міністраў Беларусі пастанавіў накіраваць 9 мільярдаў рублёў на працяг будаўніцтва аздараўленчага комплексу для інвалідаў ва ўрочышчы Вяжуці Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці.

Пастановай урада аздараўленчы комплекс для інвалідаў уключаны ў пералік будоўляў і аб'ектаў для рэспубліканскіх дзяржаўных патрэб, фінансуемых у гэтым годзе за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту.

Міністэрству сацыяльнай абароны даручана стварыць на базе гэтага комплексу рэспубліканскі санаторый "Вяжуці" для інвалідаў з парушэннямі апорна-рухальнага апарата. Міністэрства фінансаў, згодна з пастановай, пачынаючы з будучага года, будзе прадугледжваць у рэспубліканскім бюджэце асігнаванні на ўтрыманне данага санаторыя. Акрамя таго, прынята прапанова Беларускага таварыства інвалідаў аб штомесячным выдзяленні яму да 10 працэнтаў пуцёвак у рэспубліканскі санаторый "Вяжуці".

ПРЭМ'ЕРЫ



Прэм'ерай мюзікла "Цалуй мяне, Кэт!" заканчвае сезон Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі. Прэм'ера спектакля адбылася 17 чэрвеня. Паставіў яго мастацкі кіраўнік і галоўны рэжысёр тэатра Барыс Лагода. Мюзікл "Цалуй мяне, Кэт!" амерыканскага кампазітара Коула Портэра стварыўся як музычная версія п'есы В. Шэкспіра "Утаймаванне свавольніцы".

НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля "Цалуй мяне, Кэт!".

Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БелТА.

АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ

ПРЫЯРЫТЭТНЫЯ для Беларусі напрамкі развіцця навуковага супрацоўніцтва з НАТО прадставіў старшыня Дзяржаўнага камітэта па навуцы і тэхналогіях нашай краіны Віктар Гайсёнак на пасяджэнні Камітэта па навуцы паўночнаатлантычнага альянсу з краінамі-партнёрамі, якое адбылося ў Брусэлі. Былі абмеркаваны канкрэтныя праекты развіцця супрацоўніцтва альянсу з нашай краінай.

ЗА ПОСПЕХІ ў вытворчасці якаснай прадукцыі міжнародная прыза ўдастоена віцебскае акцыянернае таварыства "Чырвоны кастрычнік".

"Гранд кліўшэ" віцебскім абутнікам прысудзіла асацыяцыя "Маркетынг стандарт", якая дзейнічае ў рамках праграмы "Партнёрства дзеля прагрэсу".

З БЛАГАСЛАЎЛЕННЯ Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі з'явілася ў свет кніга "Закон Божы" для сям'і і школы. Такое выданне выйшла ў Беларусі ўпершыню за апошнія 80 гадоў.

БЕЛАРУСКАЕ радыё пачало трансляцыю сваіх праграм на большую частку еўрапейскага рэгіёна Расіі. Перадачы вядуцца на сярэдніх хвалях. У асноўным гэта інфармацыйныя, інфармацыйна-аналітычныя праграмы. Мэта вяшчання на Расію — праўда аб Беларусі з першых рук.

ПРАЗ РАКУ Лучосу ў Віцебску пралёг новы мост. Даўжыня яго 114 метраў. І носіць ён імя легендарнага партызана Шмырова — бацькі Міная.

МІНІМАЛЬНЫ спажывецкі бюджэт для аднаго члена сям'і, якая складаецца з чатырох чалавек, у маі склаў 2 мільёны 775 тысяч рублёў.

Паводле даных Міністэрства статыстыкі і аналізу, кошт спажывецкай карзіны за апошнія паўгода павялічыўся на 18,7 працэнта.

НОВАЯ арганізацыя — Ліга дапамогі людзям з абмежаванымі разумовымі магчымасцямі — з'явілася ў нашай рэспубліцы.

Яе мэта — стварыць найбольш спрыяльныя ўмовы для дастойнага жыцця такіх людзей.

МАГЧЫМАСЦЬ навучыцца працаваць у камп'ютэрнай сетцы Інтэрнет, а таксама павысіць сваю прафесійную кваліфікацыю ў галіне сеткавых тэхналогій з'явілася ў жыхароў беларускай сталіцы.

Першы дысплейны клас, які гарантуе добрую хуткасць атрымання інфармацыі з сеткі, адкрыты ў Мінску беларускім прадпрыемствам "Адкрыты кантакт".







# ГОРАД ГОНАРУ І СЛАВЫ

Здаецца, зусім нядаўна нясвіжцы адзначалі 750-годдзе свайго горада. А ўжо мінула яшчэ чвэрць стагоддзя. Час ляціць хутка. Жыццё імкліва мяняецца. Змяніўся і Нясвіж — папрыгажэў, падаўся ўшыркі. Асабліва на захад і поўдзень. Выраслі новыя кварталы, шыкоўныя асабнякі, арыгінальнай архітэктуры шматпавярховыя будынкі. Вуліцы прасторныя, утульныя двары.

Прыкметна павялічылася насельніцтва горада. А галоўнае — людзі набылі больш годнасці ці што. Асабліва за апошняе дзесяцігоддзе, калі Беларусь атрымала незалежнасць, а нясвіжцы — доступ да яе праўдзівай гісторыі, да мінулага свайго горада, сваіх продкаў.

А мінулае Нясвіжа надзвычай багатае і слаўнае. Продкі — дастойныя памяці новых пакаленняў. Пра горад напісаны сотні кніг публіцыстыкі, гістарычных даследаванняў, раманы, аповесці, зняты кінафільмы... Пра многае з біяграфіі горада я даведаўся, калі жыў у ім адзінаццаць гадоў, з 1962. Помню той Нясвіж — неўпарадкаваны, правінцыяльны, бедны на духоўнае жыццё. І кожны раз, прыязджаючы ў яго праз некалькі гадоў, радуюся прыкметным зрухам да лепшага.

У мінулым горад, ардынацыя князёў Радзівілаў, быў адным з самых прыгожых на Беларусі. Да сёння захаваліся непаўторнай архітэктуры збудаванні, якія атрымалі статус помнікаў архітэктуры рэспубліканскага значэння.

Найперш гэта княжацкі палац. Лепшага ў краіне няма. Радзівілы, адны з самых буйных магнатаў Еўропы, не шкадавалі сродкаў на яго. Палац неаднойчы перабудоўваўся, рэстаўрыраваўся.

Фарны касцёл, узведзены ў 1583—1584 гадах пад кіраўніцтвам італьянскага архітэктара Бернардоні, уражвае лёгкасцю формы, непаўторнасцю. Ратуша (1596) — адна з першых на беларускай тэрыторыі. Вакол яе ў XVII стагоддзі пабудаваны крамы, у іх гандлююць і сёння. Домік на рынку (1721) — адзіны жылы дом таго часу, які захаваўся. У 1596 годзе ўзведзены кляштар бенедыкцінак. Слуцкая брама, капліца каля фарнага касцёла, іншыя будынкі — сведкі тых далёкіх дзён, калі Нясвіж лічыўся другой сталіцай Вялікага Княства Літоўскага.

У горадзе нямала пабудоў пазнейшага часу. Яны таксама яго ўпрыгажэнне. Аднак частка жылля да таго састарэла, што давялося знесці, а на яго месцы паставіць сучасныя будынкі — гасцініцу, універмаг, кафэ, кінатэатр, адміністрацыйны будынак, рэстаран, аўтобусную станцыю, шматпавярховыя жылыя дамы. Помнікі архітэктуры, даўнія пабудовы прыемна суседнічаюць, архітэктурна дапаўняюць адзін аднаго. Склаўся сімпатычны цэнтр — добраўпарадкаваны, прывабны.

Нельга ўявіць Нясвіж без пяці штучных азёраў, якія падзяляюць яго на дзве часткі.

Неад'емная краса горада — самы вялікі ў Беларусі парк — 108 гектараў. У ім каля 200 відаў раслін, мясцовых і экзотаў. Цяністыя алеі, купкі дрэў, старых і маладых, яркія кветкавыя клумбы, альтанкі, азерцы... Усё спрыяе адпачынку, лашчыць вока, дае асалоду душы. А на поўдзень ад горада раскінуўся лесапарк Альба — былая летняя рэзідэнцыя князёў. Займае ён больш як 450 гектараў. У ім захавалася сістэма каналаў і сажалак, месца, дзе быў звярынец, падмуркі кадэцкага і марскога вучылішчаў.

Так спалучыліся ў сённяшнім Нясвіжы старажытная і новая матэрыяльная культуры. На яе можна паглядзець, ёю можна палюбавацца. Але гэта, як цяпер кажуць, надводная частка айсберга. У "падводнай" — у глыбіні вякоў — захаваліся духоўныя скарбы: асвета, філасофія, літаратура, музыка, тэатр, навуковая думка, друкарства, вальнадумства, імкненне да незалежнасці Радзімы... Усё гэта ў Нясвіжы было, у многіх галінах чалавечай дзейнасці ён станавіўся на беларускай зямлі першым, адкрываў дарогу новым пакаленням беларусаў. Вось толькі некаторыя эпізоды такой дзейнасці.

Друкарства адкрыла цэлую эпоху ў развіцці чалавецтва. Каля яго вытокаў у Беларусі стаяў Сымон Будны — гуманіст, асветнік, філосаф, вучоны. У Нясвіжы ён са сваімі паплечнікамі заснаваў адну з першых друкарняў і выдаў у ёй у 1562 годзе "Катэхізіс" — першую кнігу на беларускай мове, якая стала свайго роду падручнікам для многіх людзей. Перадавыя погляды С. Буднага адыгралі вялікую ролю ў фарміраванні грамадзянскага светапогляду таго часу. Усяго асветнік выдаў каля ста кніг.

Адольф Янушкевіч нарадзіўся ў Нясвіжы ў 1803 годзе. Удзельнік паўстання 1831 года, ён быў сасланы ў Сібір на вечную катаргу. З дапамогай сяброў, у тым ліку сына рускага пісьменніка Карамзіна, атрымаў адносную свабоду, шмат падарожнічаў, вывучаў Казахстан, жыццё і побыт яго людзей, пакінуў пра іх грунтоўныя працы. Прататыпам Адольфа ў паэме А. Міцкевіча "Дзяды" быў Янушкевіч.

Прыкладна ў тыя ж гады жыў ураджэнец вёскі Смалічы каля Нясвіжа Аляксандр Незабытоўскі. Ён, хворы, многа падарожнічаў па Еўропе і Афрыцы. Шмат пісаў. У кнігах, п'есах, дзённіках выклаў свае вольналюбівыя думкі, любоў да радзімы, нянавісць да царызму, заклікаў да барацьбы з ім. Прысуд — пазбаўленне дваранскіх правоў, маёмасці, 20 гадоў катаргі ў рудніках Сібіры — не быў здзейснены: змагар памёр.

Літаратурная спадчына Нясвіжа вельмі багатая. У горадзе нарадзіліся альбо жылі ў ім, тварылі пісьменнікі Даніла Набароўскі (1573—1640), Андрэй Рымша (нарадзіўся каля 1500 года) і іншыя. Яркі след у літаратуры пакінуў паэт Уладзімір Сыракомля (1823—1862). Паэт-дэмакрат, даследчык, публіцыст, грамадскі дзеяч, ён вызначаўся прыхільнасцю да ўсяго беларускага.

Важным асяродкам беларушчыны стала настаўніцкая семінарыя, заснаваная ў 1875 годзе. У ёй вучыліся А. Багдановіч (бацька Максіма Багдановіча), Якуб Колас, Кузьма Чорны, іншыя вядомыя людзі.

З Нясвіжам звязана творчасць не толькі ўраджэнцаў гэтага краю. Мастакі, музыкі, літаратары аддалі яму даніну павагі, пісалі пра горад, яго мінулае, людзей. Янка Брыль, Пімен Панчанка, Максім Танк, Піліп Пестрак, Пятрусь Броўка, Сяргей Новік-Пяюн, Мікола Ткачоў, Аркадзь Куляшоў, Леанід Дайнека, Паўлюк Пранузa, Мікола Маляўка, Кастусь Жук, дзесяткі іншых прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі натхняліся гісторыяй Нясвіжа.

У Нясвіжы берагуць памяць пра слынных дзеячаў. У скверыку ў цэнтры горада пастаўлены помнік Сымону Буднаму. У фарным касцёле — мемарыяльная дошка ў гонар Уладзіслава Сыракомлі. Не так даўно ў парку сталі ў два рады скульптуры-бюсты Юрыя Нясвіжскага, які ўпамінаецца ў летапісе пад 1223 годам; Сымона Буднага; Мікалая Радзівіла, пры якім у горадзе ўзведзены выдатныя будынкі; Тамаша Макоўскага, вучонага, картографа з Нясвіжа, які пакінуў гравюры свайго горада (1613), Клецка, Вільні, Масквы, іншых гарадоў; Уладзіслава Сыракомлі; Якуба Коласа.

Яшчэ ў нядаўнія нядобрыя часы (як было прынята пасля кастрычніцкага перавароту 1917 года) усё мінулае, асабліва што датычыла князёў, дваран, бязлітасна ганьбілася. Яны і крывасмокі, і эксплуататары, і бяздарныя, і пустыя людзі. Было, вядома, і такое на працягу многіх стагоддзяў. Але было ў Радзівілаў і шмат добрага, карыснага. Да сёння людзі захапляюцца ў Нясвіжы архітэктурна цудоўнымі пабудовамі, паркамі, азёрамі, што з'явіліся дзякуючы князям. Сярод іх былі таленавітыя, вялікія патрыёты сваёй зямлі. Мікалай Радзівіл Сіротка (1549—1616) шмат падарожнічаў па краінах Еўропы, Афрыкі, Блізкага Усходу. Яго кніга "Вандроўкі" з 1601 года да нашых дзён выдавалася два дзесяткі разоў. Менавіта пры ім закладзены сучасны палацава-замкавы комплекс. Уршуля Радзівіл (1705—1753) — стваральніца і першы рэжысёр Нясвіжскага прыдворнага тэатра. Напісала шаснаццаць драматычных твораў. Былі і іншыя таленавітыя Радзівілы. Ва ўсякім разе, усё, пра што гаварылася вышэй, рабілася з іх удзелам, за іх сродкі, па іх ініцыятыве. Яны займалі высокія пасады ў Вялікім Княстве Літоўскім. Яны лічылі сябе беларусамі, бераглі беларускія звычаі, мову. Дарэчы, зборнік вершаў Максіма Багдановіча "Вянок" выдадзены за іх спонсарскія сродкі.

Такі ён — Нясвіж, горад беларускай славы, цэнтр дзяржаўнасці, культуры. Ён шмат зрабіў для станаўлення і развіцця нацыі. Гэтым ён назаўсёды ўвайшоў у гісторыю Беларусі, пакінуў пра сваё мінулае цудоўныя ўспаміны ў нашчадкаў, натхняе на рупную працу на беларускай ніве.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: уваходная брама ў манастыр бенедыкцінак; адна з вуліц Нясвіжа; маляўнічы куток у парку; помнік Сымону БУДНАМУ; фарны касцёл; у двары палаца.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**







ПЕРШАЯ МІЖНАРОДНАЯ

# СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ МАГІЛЁВА



Магілёў — старажытны беларускі горад, які мае багатую гісторыка-культурную спадчыну. Час быў нялітасцівы да горада. Вельмі шмат помнікаў гісторыі і культуры страчаны незваротна. Аднак сёння яшчэ ёсць магчымасць захаваць для нашчадкаў тое, што ацалела. Навукоўцы з розных гарадоў Беларусі і краін свету вядуць сістэматычнае і паслядоўнае вывучэнне гісторыі і культуры Магілёва — яго мінулага і сучаснасці. Гэта знайшло сваё адлюстраванне ў матэрыялах Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Гісторыя Магілёва: мінулае і сучаснасць", якая адбылася ў канцы мая 1998 года ў Магілёве. Гэта была першая такога ўзроўню канферэнцыя, прысвечаная менавіта гораду. Яе арганізавалі Упраўленне культуры Магілёўскага гарвыканкома і музей гісторыі Магілёва, а праводзілася на базе Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта. На канферэнцыі з дакладамі выступілі 39 навукоўцаў, спецыялістаў, музейных работнікаў з розных рэгіёнаў Беларусі, а таксама з Германіі, ЗША, Латвіі. Усяго ж падалі заяўкі на ўдзел 46 чалавек. Не здолелі прыехаць запрошаныя з Польшчы, Славакіі (з-за адначасовага правядзення іншых канферэнцый) і Расіі (з-за фінансавых цяжкасцей). Сярод удзельнікаў было 6 дактароў і 13 кандыдатаў навук. Падчас пасяджэнняў працавалі дзве секцыі: "Старонкі гісторыі Магілёва", "Мастацтва і рэлігія: традыцыі і талерантнасць", на якіх адбыўся ўсебаковы разгляд матэрыялаў з розных перыядаў гісторыі і развіцця культуры Магілёва. Вельмі цікавымі і змястоўнымі былі даклады магіляўчан: І. Марзалюка "Магілёў у XII—XVIII стагоддзях (этапы росту гарадской тэрыторыі)", С. Даніленкі "Семантыка магдэбургскіх гербаў Магілёва", А. Грыцкевіча з Мінска "Афіцыйныя дакументы па Магілёву і Магілёўскай губерні ў Поўным зборы законаў Расійскай імперыі ў XVIII стагоддзі", В. Кіпеля (Нью-Йорк, ЗША) "Магілёўшчына ў замежным друку і бібліятэках Амерыкі", В. Целеша (Рыга, Латвія) "Магілёў на старых паштоўках", Э. Іофе (Мінск) "Евреи Могилёва в XVI — начале XX веков", В. Рабцэвіча (Мінск) "Севский чех" на восточнобелорусском рынке конца XVII века", І. Кітурка (Гродна) "Магілёў і Магілёўская воласць у XVI стагоддзі", А. Ярашэвіча (Мінск) "Бялыніцкі абраз Маці Божай: гісторыя, іканаграфія, культ", Ю. Піскуна (Мінск) "Цудатворныя абразы Божай Маці ў Магілёве, іх значэнне ў гістарычным жыцці горада і іх лёсы", В. Скалабана (Мінск) "Магілёў І-й трэці XX стагоддзя ў асобах: Іван Баранкевіч і Аляксандр Вазіла". Уразілі таксама даклады В. Старасценкі (Магілёў), В. Голубева, І. Колабавай, Н. Новік, М. Цэйтлінай, В. Мазанік, А. Літвіновіча (усе Мінск), З. Кіпель (Нью-Йорк, ЗША), Р. Брунера (Германія, г. Айзенах) і іншых. Удзельнікі канферэнцыі прачыталі для студэнтаў і грамадскасці горада шэраг публічных лекцый па гісторыі і культуры Магілёва.

Падчас абмеркавання дакладаў, спрэчак і дыскусій былі распрацаваны рэкамендацыі. У іх удзельнікі канфеэрэнцыі канстатавалі, што ў выніку навукова-даследчай працы склалася магілёвазнаўства — комплексная галіна навуковых ведаў, шырокі грамадскі рух, які мае на мэце вывучэнне гісторыі і культуры Магілёва і выкарыстанне вынікаў росшукаў у навучальных і культурна-асветных установах; палічылі неабходным стварэнне каардынуючага цэнтра магілёвазнаўства, які б аб'яднаў намаганні прафесійных даследчыкаў, краязнаўцаў, бібліятэкараў, архівістаў, супрацоўнікаў музеяў, журналістаў, выдаўцоў; прапанавалі заснаваць лабараторыю магілёвазнаўства на гістарычным факультэце Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта. Прагучала ідэя стварэння міжведамаснага навуковага праекта "Памяць Магілёва", які б прадугледжваў выяўленне, збор, выкарыстанне дакументальных помнікаў па гісторыі Магілёва, што зберагаюцца ў сховішчах як Беларусі, так і замежных краін. Адзначана, што існуе неабходнасць выдання "Каталога крыніц па гісторыі Магілёва і Магілёўшчыны XVI—XIX стагоддзяў", збору і вывучэння архіўных крыніц па прадстаўніках беларускай эміграцыі, якія паходзілі з Магілёва.

Але найбольшы клопат выклікаў стан Мікалаеўскай царквы — выключнага помніка архітэктуры і манументальнага жывапісу эпохі барока. У сувязі з непрафесійным рамонтам на помніку парушыўся тэмпературна-вільготны рэжым, што выклікае разбурэнне будаўнічых матэрыялаў і элементаў дэкору. Прапанавана стварыць камісію з спецыялістаў-рэстаўратараў, мастацтвазнаўцаў, прадстаўнікоў праваслаўнай царквы для распрацоўкі плана па правядзенню работ па гідраізаляцыі.

Звярнуліся ўдзельнікі канферэнцыі і да мясцовай улады, прапануючы паскорыць працы па стварэнні экспазіцыі музея гісторыі Магілёва; надаць статус гісторыка-археалагічнага запаведніка тэрыторыі былога магілёўскага гарадзішча "Магіла" і тэрыторыі вакол мінеральнай крыніцы ў Палыкавічах; арганізаваць фінансавую падтрымку рэгіянальных гісторыка-краязнаўчых выданняў, у прыватнасці "Магілёўскай даўніны", і г. д.

На заканчэнне трэба дадаць, што да пачатку канферэнцыі быў выдадзены зборнік навуковых прац удзельнікаў канферэнцыі. Госці Магілёва азнаёміліся з помнікамі гісторыі і культуры горада, наведалі культурныя мерапрыемствы з праграмы свята горада — "Магілёў-98".

**Ігар ПУШКІН,**
**дырэктар музея**
**гісторыі Магілёва.**

# ПАЛІТЫЧНЫЯ ПОГЛЯДЫ МІКОЛЫ ГУСОЎСКАГА

**(Працяг.**
**Пачатак на 1-й стар.).**

месца належала Рафаэлю Санці — аўтару сусветна вядомай "Сіксцінскай мадонны". Ён, дарэчы, увекавечыў вобраз Льва X на адной са сваіх карцін. Льва X наведвалі многія еўрапейскія славутасці — удзельнікі гуманістычнага руху, у прыватнасці, Эразм Ратэрдамскі. Гады папства Льва X адзначаны інтэнсіўным будаўніцтвам у Рыме шэрагу вядомых помнікаў—шэдэўраў архітэктурнага мастацтва, у тым ліку і сабора святога Пятра. Духоўную атмасферу, што акружала гуманіста-папу, характарызаваў у сваім двухтомным даследаванні "Гісторыя папства ў XVI—XIX стагоддзях" адзін з самых вядомых еўрапейскіх гісторыкаў XIX стагоддзя Леапольд Ранке (1795—1886) наступным чынам: "У той час адпраўляліся ў Ватыкан не столькі дзеля таго, каб памаліцца ля апостальскага парога, колькі для таго, каб разам з папскай світай захапляцца такімі выдатнымі творамі антычнага мастацтва, як Апалон Бельведэрскі ці Лаакаон".

Такім чынам, можна сказаць, што канчатковае завяршэнне станаўлення гуманістычнага светапогляду М. Гусоўскага, як і Францішка Скарыны, праходзіла ў непасрэдных кантактах з заходнееўрапейскімі і асабліва з італьянскімі гуманістамі. І менавіта для папы Льва X, гуманіста і заступніка мастацтва, у 1521 годзе і ствараўся ў Рыме на лацінскай мове галоўны твор М. Гусоўскага "Песня пра зубра" (поўная назва "Песня аб форме, дзікасці зубра і паляванні на яго").

Прычынай яго напісання, як расказвае сам паэт у прыкладзеным да паэмы прысвячэнні каралеве Боне (а таксама ў пачатку паэмы), паслужыла наступная акалічнасць. Неяк у час прадстаўлення бою дзікіх быкоў у Рыме (магчыма, у 1521 годзе), на якім прысутнічаў папа Леў X са світай, а таксама члены польска-беларускай дыпламатычнай місіі на чале з епіскапам Э. Цёлкам, нехта з прыбліжаных плоцкага епіскапа параўнаў гэтае прадстаўленне з паляваннем на зуброў у Вялікім Княстве Літоўскім. Слова далі М. Гусоўскаму, які выдатна ведаў праблему. Ён так па-майстэрску выклаў сутнасць яе папе, што Леў X, заўзяты паляўнічы, які ўтрымліваў, дарэчы, у Ватыкане цудоўны заапарк, папрасіў плоцкага епіскапа падарыць чучала невядомага яму зубра. Выконваючы просьбу папы, Э. Цёлк пачаў перапіску з віленскім ваяводам, а адначасова і канцлерам ВКЛ Мікалаем Радзівілам (1470—1522) і ў чаканні прыбыцця з ВКЛ чучала зубра папрасіў М. Гусоўскага напісаць паэму пра зубра і паляванне на яго. Задумвалася ўручыць яе папе разам з чучалам. Работа блізілася да завяршэння — ужо было напісана 827 радкоў (уся паэма налічвае 1 072 радкі), як раптам 1 снежня 1521 года папа памёр. Праз дзесяць месяцаў (9 верасня 1522 года) таксама нечакана памёр у Рыме Эразм Цёлк. Паміж дзвюма канчынамі пакінуў жыццё і віленскі ваявода Мікалай Радзівіл. Далейшае знаходжанне М. Гусоўскага ў Рыме з-за вострага недахопу матэрыяльных сродкаў стала немагчымым. Паэт вымушаны быў пакінуць вечны горад і вярнуцца на радзіму. Па дарозе дамоў ён затрымаўся ў сталіцы Польскага Каралеўства — Кракаве (Варшава стала сталіцай Польшчы толькі з канца XVI стагоддзя). Тут адбылося яго знаёмства з каралеўскім сакратаром Янам Карнкоўскім, а таксама сакратаром каралевы Боны — італьянцам Людвікам Дальфіо. Менавіта дзякуючы дапамозе новых знаёмых, у Кракаве ў кастрычніку 1523 года і ўбачыў свет галоўны твор Міколы Гусоўскага "Песня пра зубра". Ён быў выдадзены ў друкарні Іераніма Віетара на лацінскай мове і прысвечаны каралеве Боне Сфорца — жонцы Сігізмунда І Старога.

Паэма складаецца з дзвюх частак і налічвае, як ужо было сказана, 1 072 радкі. У першай частцы (386 радкоў) даецца апісанне зубра, г. зн. яго знешняга выгляду, паводзін у розных сітуацыях, стану ведаў аб ім. У сваіх апісаннях паэт абапіраецца перш за ўсё на асабістыя назіранні, успаміны, але выкарыстоўвае таксама і звесткі, узятыя з прац як антычных, так і сярэднявечных вучоных — Плінія Старэйшага, Паўла Д'якана. Спасылкі на працы гэтых вучоных зроблены Гусоўскім магчыма для таго, каб мацней зацікавіць зместам паэмы папу Льва X. У другой частцы, значна большай па аб'ёму (радкі 387—1 072), расказваецца аб небяспечным і цяжкім паляванні на гіганта беларускай пушчы, якое патрабавала смеласці, адвагі, спрыту, розуму. Паэт з незвычайнай сілай, па-майстэрску апявае прыгажосць беларускай прыроды, яе багаты жывёльны свет. У поўным сэнсе слова ён стварае велічны гімн беларускай флоры і фауне, бессмяротныя ноты якога не страчваюць свайго загадкавага, казачнага, чароўнага гучання і да нашых дзён. У паэме выкладзена глыбокая, прадуманая рэнесансная канцэпцыя гарманічных адносін чалавека, прыроды і грамадства. Бясспрэчная пастаноўка Гусоўскім праблемы аховы навакольнага асяроддзя, беражлівых адносін да скарбаў прыроды, рацыянальнага, гаспадарскага выкарыстання прыродных багаццяў.

Паколькі аналіз з гэтага боку творчасці паэта атрымаў досыць глыбокае асвятленне ў работах гісторыкаў беларускай літаратуры і філасофіі Э. Дарашэвіча, В. Дарашкевіча, У. Конана, С. Падокшына, Я. Парэцкага, В. Чамярыцкага і інш., не будзем спыняцца на іх падрабязным пераказе. Сканцэнтруем галоўную ўвагу на аналізе палітычных поглядаў паэта, бо яны вывучаны пакуль недастаткова, але займаюць важнае, можна сказаць, галоўнае месца ў духоўнай спадчыне М. Гусоўскага.

Магчымасць праінфармаваць папу аб сваёй радзіме М. Гусоўскі выкарыстаў менавіта для таго, каб выкласці Льву X як свае палітычныя погляды, так і палітычную праграму беларуска-польскай дыпламатычнай місіі. У творы, што прызначаўся для вышэйшага іерарха каталіцкай царквы, паэт паспрабаваў сфармуляваць найбольш актуальныя для ВКЛ, усіх славянскіх народаў палітычныя праблемы.

Сваё палітычнае крэда Гусоўскі выкладае ў своеасаблівай форме, у выглядзе невялікіх адступленняў ад галоўнага сюжэта, якія на першы погляд не выходзяць далёка за рамкі тэмы апавядання, але маюць зусім самастойнае значэнне і з'яўляюцца надзвычай важнай крыніцай для характарыстыкі палітычных поглядаў паэта. Менавіта ў гэтых паэтычных адступленнях змяшчаюцца грамадска-палітычныя погляды Гусоўскага, раскрываюцца яго адносіны да дзяржаўнага ладу ВКЛ, яго кіраўнікоў, дзяржаўных устаноў, да сучаснай яму велікакняжацкай унутранай і знешняй палітыкі, да заканадаўства, рэлігіі, царквы, а таксама міжнародных праблем, вырашэнне якіх патрабавала сумесных намаганняў еўрапейскіх краін.

Самае вялікае адступленне ў паэме прысвечана княжанню Вітаўта (1392—1430). Яно займае прыкладна шостую частку твора. Зразумела, гэта не выпадкова. Паэма стваралася ў той час, калі ў палітычнай думцы еўрапейскага Адраджэння шырока абмяркоўвалася праблема ідэальнага манарха, характарыстыка ўласцівых яму рысаў, аб'ектыўных крытэрыяў яго палітычнай дзейнасці. Наколькі гэтая праблема была тады папулярнай, сведчыць выхад у свет (менавіта ў гэты час) прац такіх славутых мысліцеляў-гуманістаў, як Т. Мор, А. Гевара, Н. Макіявелі і інш. Зразумела, найбольш папулярным і найбольш вядомым у той час у Італіі быў "Князь" (ці "Гасудар") Н. Макіявелі (1467—1527). Напісаны ў 1513 годзе, ён самым непасрэдным чынам тычыўся італьянскай палітычнай рэчаіснасці таго часу. І хаця праца Н. Макіявелі яшчэ знаходзілася ў рукапісе (яна была апублікавана толькі ў 1532 годзе пасля смерці аўтара), яе змест быў добра вядомы папе Льву X, бо разам з Рафаэлем Санці Макіявелі таксама належаў да папскага акружэння. Вядома, што Макіявелі задумваў першапачаткова прысвяціць сваю працу роднаму брату папы — Джуліяна Медычы (1479—1516). Меркавалася, што менавіта ён, стаўшы на чале аднаго з новастворaных італьянскіх княстваў, пачне працэс аб'яднання раздробленай Італіі, паклаўшы прынцыпы і рэкамендацыі Макіявелі ў аснову сваёй палітычнай дзейнасці.

Але паколькі родны брат Льва X — Джуліяна нечакана памёр, Н. Макіявелі вымушаны быў прысвяціць свой твор пляменніку папы — Ларэнца Медычы (1492—1519).

Як бачым, паміж Н. Макіявелі, з аднаго боку, і Львом X, з другога, існавалі даволі цесныя духоўныя сувязі. Ужо згаданы намі нямецкі гісторык XIX стагоддзя Л. Ранке, адзін з найбольш глыбокіх знаўцаў той эпохі, сцвярджае, што шэраг твораў Н. Макіявелі напісаў спецыяльна для Льва X. Таму можна ўявіць, што праблема ідэальнага манарха, узнятая, у прыватнасці, у працы Н. Макіявелі "Гасудар", шырока абмяркоўвалася ў акружэнні Льва X і была добра вядомая Міколе Гусоўскаму. Відаць, менавіта таму ён удзяляе шмат месца гэтай праблеме, паказваючы Вітаўта як ідэальнага правіцеля, г. зн. як таленавітага палкаводца, геніяльнага палітыка, справядлівага суддзю і г. д., які ўмела выкарыстоўвае ў сваёй палітычнай дзейнасці прынцыпы "льва і лісіцы".

Апісваючы княжанне Вітаўта, М. Гусоўскі закранае ў сваім творы перш за ўсё крытэрыі ацэнкі палітычнай дзейнасці ідэальнага манарха. Гэта ў першую чаргу экспансіяніскцкая знешняя палітыка, пашырэнне межаў дзяржавы. У часы праўлення Вітаўта тэрыторыя ВКЛ дасягнула самых вялікіх памераў. У прыватнасці, на поўдні, адваяваўшы ў татар Паўднёвую Падолію, ён пашырыў уладанні княства да чарнаморскага ўзбярэжжа. У 1415 годзе Вітаўт урачыста на белым кані ўехаў у воды Чорнага мора, сімвалізуючы гэтым актам устанаўленне тут сваёй улады. На ўсходзе граніцы княства дасягалі вярхоўяў Акі і Мажайска. На поўначы ён аказваў уплыў на палітыку Ноўгарада і Пскова. М. Гусоўскі з гордасцю піша пра Вітаўта, які "сілу радзіме надаў, княства вялікім зрабіў".

Галоўнай марай Вітаўта была наяўнасць моцнай, баяздольнай арміі, ваенная арганізацыя і ваенная навука:

**..................... у годы княжэння**
**Грознага Вітаўта ўсюды на землях дзяржавы**
**Кожны дзядзінец пры замках, груды між балотаў —**
**Гэта пляцы і пляцы для вайсковых заняткаў.**
**Мірны перыяд між войнамі быў перадышкай.**

У гады княжання Вітаўта прытрымліваліся законаў, вяршыўся справядлівы суд:

**Ён справядлівасць любіў, шанаваў яе нормы святыя,**
**Не дазваляў, каб махляр дзесьці абходзіў закон.**
**Як ужо ў суд выклікаў, то большая колькасць віноўных**
**Самі губілі сябе, толькі б не йсці да яго.**
**Людзі з нячыстай душой пятлю панадзейней шукалі,**
**Шанцаў не меў ліхадзей неяк ад кары ўцячы.**

**Вячаслаў ШАЛЬКЕВІЧ.**

**(Заканчэнне будзе).**

НАМ ПІШУЦЬ

# СЛАВЯНСКІ ТЫДЗЕНЬ

У Даўгаўпілсе з 18 па 24 мая прайшоў Тыдзень славянскай культуры, прысвечаны славянскім асветнікам святым братам Кірылу і Мяфодзію. У рамках Тыдня прайшлі вечары беларускай, польскай і рускай культур, вечар паэзіі і навукова-практычная канферэнцыя.

На адкрыцці Тыдня выступалі дзіцячыя калектывы, дзе ў канцэрце ўрывак з "Новай зямлі" Я. Коласа і верш "Я, беларус" Н. Гілевіча прачыталі дзеці Беларускай нядзельнай школы Надзя Бучэль і Міша Бучэль.

На адкрыцці Тыдня славянскай культуры і вечара беларускай культуры слова меў генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе Васіль Марковіч, які сказаў, што беларускі народ мае сваю багатую культуру, традыцыі, абрады. Гэтыя словы пацвердзілі сваімі выступленнямі ўдзельнікі канцэрта ў Цэнтры латышскай культуры. Напачатку дзеці Беларускай нядзельнай школы разам з настаўніцай Таццянай Бучэль паказалі беларускае абрадавае свята "Гуканне вясны" (яно было праведзена месяц таму ў памяшканні таварыства "Уздым"). Тут галоўнае дзеянне тварылі вясёлыя валачобнікі Саша Віршута і Уладзімір Паўловіч, грозны Юр'я (Ярыла) Алег Атрахімовіч, прыгажуні вяснянкі Надзя Бучэль, Марына Куцына, Вераніка Заліўская, Лена Бучэль. Ансамбль "Купалінка" Беларускага таварыства "Уздым" (мастацкі кіраўнік Я. Шчамялёва) хораша выканаў беларускія песні "Зямля з блакітнымі вачыма", "Азёры дабрыні", "Гуляць дык гуляць". Салістка ансамбля "Купалінка" Зінаіда Дзегцярэнка не менш прыгожа праспявала беларускую народную песню "А ў полі азерца". Аўтар гэтых радкоў прачытаў два свае вершы "На вотчыне" і "Дзярага".

Затым сцэнай завалодалі госці. Дзеці-беларусы з 3-й сярэдняй школы горада Краславы (настаўніца Святлана Стэльмачонак) зладжана выканалі беларускі народны танец "Лявоніха" і беларускую народную песню "Чаму ж мне не пець". Фальклорны ансамбль "Рабінушка" Балта-славянскага таварыства з латгальскага горада Прэйлі (мастацкі кіраўнік Святлана Сцяпанава) павіншаваў са святам сваіх сяброў-беларусаў з Даўгаўпілса беларускімі народнымі песнямі "Калода" і "Каліна".

І вось на сцэне нашы суайчыннікі з Беларусі, артысты Браслаўскага дома культуры. У выкананні жаночай вакальнай групы прагучалі беларускія народныя песні "Я каліну ламала", "Чорна галка", "Чабарок". Салістка Аляксандра Раманоўская з запалам праспявала беларускія народныя песні "Куры, мае куры" і "Бела чаечка". Не менш яскравай у сваім выступленні была і салістка Ванда Сіротка з беларускімі народнымі песнямі "Чарыца" і "У нядзелю ў Друі на базары"(апошняя была перафразавана "У нядзелю ў Даўгаўпілсе на базары"). Добра пастараліся таксама спачатку ў фае, а затым і на сцэне трыо народных музыкаў з беларускімі народнымі мелодыямі. Нямала вясёлых хвілін падарыла браслаўская "сваццця", якая "прыехала на кабыле" сватаць браслаўскіх дзяўчат да даўгаўпілскіх хлопцаў і наадварот. Тут былі задзейнічаны, падымаліся на сцэну і гледачы, што сядзелі ў першым радзе...

У заключэнне канцэрта загадчык Браслаўскага гарадскога аддзела культуры Альберт Белусь падараваў старшыні "Уздыму" карціну, на якой, па яго словах, — залатая рыбка з Браслаўскіх азёр, што павінна прынесці ўдачу.

Добрыя словы знайшла вядучая канцэрта, шчырая беларуска Яўгенія Гуляева, якая прыклала нямала намаганняў разам з іншымі сябрамі "Уздыму", каб гэтае свята выглядала асабліва прыгожа. На сцэне красаваліся беларускі арнамент і чырвоныя цюльпаны, а ў фае — вырабы беларускіх народных умельцаў, беларускія кнігі і альбомы з фотаздымкамі асноўных падзей у жыцці даўгаўпілскай беларускай суполкі.

Ганаровымі гасцямі на вечары беларускай культуры былі разам з генеральным консулам В. Марковічам консулы Генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у г. Даўгаўпілсе Валерый Сысоеў і Тамара Пятрова (яны прымалі актыўны ўдзел і ў падрыхтоўцы гэтага свята), генеральны консул Генеральнага консульства Расійскай Федэрацыі ў г. Даўгаўпілсе Генадзь Казначэеў, выканаўчы дырэктар Даўгаўпілскай гарадской думы Рышард Драба, прафесар з Мінска Вячаслаў Рагойша, прафесар з Даўгаўпілса Эдуард Мекш і іншыя. Трэба адзначыць, што, улічваючы дачны сезон, гледачоў у зале было даволі многа.

А ў канцы гэтага вечара ўсіх сабраў разам святочна накрыты стол, дзе гучалі добрыя тосты і віхурыліся танцы.

На навуковай канферэнцыі, удзельнікамі якой былі вучоныя з Даўгаўпілса, Рыгі, Санкт-Пецярбурга, Варшавы, Таліна, з дакладам "Беларуска-рускія літаратурныя сувязі ў XX стагоддзі" выступіў прафесар з Мінска Вячаслаў Рагойша.

На паэтычным вечары, які прайшоў у Цэнтры рускай культуры, гучалі таксама вершы і на беларускай мове. Тут адбылася і прэзентацыя першага нумара літаратурнага альманаха "Невген", дзе змешчана проза, паэзія, рэцэнзіі, літаратуразнаўчыя працы. Неўген — адна з гістарычных назваў Даўгаўпілса ў канцы XV стагоддзя, якая супала з эпохай Рэнесанса. Стваральнікі альманаха знаходзяць у ім некаторую аналогію з цяперашнім перыядам гісторыі. Яны дбаюць пра адраджэнне і росквіт мясцовай літаратуры, якая, як вядома, стаўшы сапраўднай, выходзіць далёка за рамкі "мясцовасці". У альманаху — творы на традыцыйных славянскіх мовах. Беларуская мова тут прадстаўлена вершамі С. Валодзькі. Змешчана таксама станоўчая рэцэнзія прафесара Леаніда Цылевіча на зборнік вершаў паэта "У вачах Айчыны".

Завяршыўся Тыдзень славянскай культуры ў Даўгаўпілсе малебнам у Барыса-Глебскім саборы, а затым — урачыстым прыёмам у Генеральным консульстве Расійскай Федэрацыі. Тут гасцей, сярод якіх былі генеральны консул В. Марковіч, консул В. Сысоеў, мэр Даўгаўпілса Аляксей Відаўскі, прадстаўнікі Даўгаўпілскага раённага савета, прафесары, удзельнікі навуковай канферэнцыі, дэлегацыя з горада-пабраціма Нара-Фамінска, старшыні польскага і беларускага таварystваў у Даўгаўпілсе, цёпла вітаў гаспадар, генеральны консул Г. Казначэеў, які падзякаваў прысутным за вельмі добра праведзены Тыдзень і адзначыў яго вялікае аб'ядноўчае значэнне ў жыцці жыхароў Даўгаўпілса і тых гарадоў, якія прымалі ўдзел у гэтым свяце.

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.**
г. Даўгаўпілс.

# АДАМУ МІЦКЕВІЧУ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

У беларускай школе імя Францішка Скарыны адбылася імпрэза, прысвечаная 200-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча, наладжаная беларускімі суполкамі Літвы сумесна з беларускай амбасадай у Літве. Адама Міцкевіча лічаць сваім і ганарацца ім і беларусы, і палякі, і літоўцы. Але творчасць вялікага паэта належыць усяму свету, ён — волат сусветнай літаратуры, яго творы чытаюць на ўсіх кантынентах.

Ён пакінуў творчы след у краінах Еўропы. Скандынавіі, Блізкага Усходу, куды яго закідваў лёс. У 1824 годзе Адам Міцкевіч змушаны быў назаўсёды пакінуць радзіму. Дзе б ён ні жыў, ён успамінаў і сумаваў па Навагрудчыне, краі родным. Сярод маляўнічай прыроды прайшло яго дзяцінства і юнацтва, тут зведаў і моцнае каханне да Марыі Верашчака, якой прысвяціў лепшыя лірычныя творы.

У Крыме бурныя хвалі мора напаміналі яму аб родным Нёмане.

**Нёман, рака мая! Дзе тыя
даўнія хвалі!
Дзе тое шчасце! Лепшыя
нашы намеры! —**

пытаў сябе паэт і адказваў: "Усё прамінула, жыццё толькі слёз не забрала". Затым была Масква, знаёмства з А. С. Пушкіным, З. Валконскай, М. Шымаоўскай, яе дачкой Цэлінай, якая ў будучыні стала яму сяброўкай жыцця. У 1829 годзе на англійскім параходзе "Георг IV" пры дапамозе рускіх літаратараў А. Міцкевічу ўдалося адправіцца ў Заходнюю Еўропу. Праз Любэк і Гамбург паэт накіраваўся ў Берлін, дзе была калонія эмігрантаў ліцьвінаў (беларусаў). З Нямеччыны праз Швейцарыю накіраваўся ў Італію. Потым былі Венецыя, Ферару, Балонья, Фларэнцыя, Рым, Парыж, Канстанцінопаль.

У Дрэздэне А. Міцкевічам была напісана трэцяя частка рамантычнай драмы "Дзяды", дзве папярэднія — у Коўне і Вільні, змешчаныя ў ягоным другім віленскім паэтычным зборніку (1823 год). У лістападзе 1832 года ў Парыжы паэт пачаў працу над паэтычным шэдэўрам "Пан Тадэвуш" з падзагалоўкам "Шляхецкая гісторыя 1811—1812 гадоў". Паэт пісаў, і яму здавалася, што жыве на Навагрудчыне. У шэрае акно парыжскага пакойчыка пранікала сонейка роднага краю. "Пан Тадэвуш" — вяршыня паэтычнага майстэрства Адама Міцкевіча, буйнейшы твор, развітальны гімн роднаму краю, Навагрудчыне, яе маляўнічым вёскам, шляхецкім засценкам, руінам сярэдневяковых замкаў, сумленным людзям, якія шануюць звычаі і традыцыі, патрыётам Бацькаўшчыны. Сучаснікі паэта ацанілі твор як народную эпапею, якая з'яўляецца плёнам натхнёнай працы, шырокай эрудыцыі аўтара. А сам паэт сказаў так: "Здаецца мне, што ніколі болей не буду ўжываць пяра на дробныя жартаўлівыя творы. Толькі той твор чагосьці варты, ад якога чалавек можа выправіцца або набрацца мудрасці". З гэтага часу ён займаўся публіцыстычнай дзейнасцю, дэвізам якой была адданасць ідэалам справядлівасці, свабоды і дэмакратыі.

Не толькі жыццё, але і ўся паэтычная творчасць вялікага польскага паэта цесна звязана з беларускай зямлёю, беларускім фальклорам, беларускай гісторыяй. Цудоўныя малюнкі Наднямоння, народныя песні і паданні, гераічнае мінулае Навагрудчыны, жыццё беларускага народа і збяднелай шляхты — усё гэта было той невычэрпнай крыніцай, з якой Адам Міцкевіч браў сюжэты і вобразы для сваіх бессмяротных твораў. Як сапраўды вялікі мастак, ён творча ставіўся да народных здабыткаў, насычаў іх сацыяльным зместам, уздымаў да ўзораў сусветнай паэзіі. Як паэт, дэмакрат і барацьбіт за шчасце народаў, Адам Міцкевіч вырастаў на беларускай народнай глебе. Беларуская песня, казка, легенда прыйшлі да яго раней, чым кніжная польская літаратура. Гэта пад уплывам беларускага фальклору абудзілася рамантычная душа польскага паэта, гэта пад уплывам беларускіх паданняў А. Міцкевіч стварыў свае балады "Свіцязь", "Свіцязянка", "Мешка, князь Навагрудка", "Курганок Марылі", "Пані Твардоўская". Гістарычныя звесткі шчорсаўскай бібліятэкі паэт выкарыстаў у паэмах "Гражына" і "Конрад Валенрод." Беларуская міфалогія і народныя звычаі Навагрудчыны сталі асновай славутай паэмы "Дзяды" — самага моцнага твора па сіле сацыяльнага пратэсту і накіраванасці. Аўтар смела ўводзіў у свае творы беларускую лексіку (бульба, пацеркі, вечарынка, зажынкі і іншыя).

У 1840—1844 гадах Адам Міцкевіч чытаў курс лекцый славянскіх літаратур у Калеж дэ Франс у Парыжы. Высока ацэньваў беларускі фальклор, пісаў пра цяжкі лёс беларусаў. А беларускую мову называў самай гарманічнай і з усіх славянскіх моў найменш зменьнай.

Творчасць Адама Міцкевіча служыць высокім ідэалам дабрыні, умацоўвае ўпэўненасць у святым праве кожнага народа дамагацца волі і незалежнасці, паглыбленню патрыятычнай свядомасці, вучыць любіць сваю Бацькаўшчыну, як любіў паэт, сумуючы па ёй у выгнанні. Ён пісаў: "Хаця на чужбіне да эмігрантаў адносіліся прыхільна, але было б нам тут добра, калі б мы маглі прызвычаіцца да чужой зямлі. Але марна, мы, як цыганы, усюды госці". Як актуальна гучаць словы вялікага паэта сёння.

На імпрэзе творы Адама Міцкевіча выконвалі вучні беларускай школы, у тым ліку і вучаніцы 2 класа прачыталі "Паніч і дзяўчына". Яны толькі пачынаюць вывучаць творчасць паэта, знаёмяцца з біяграфічнымі звесткамі. З іх малюнкаў быў зроблены стэнд "Па старонках твораў Адама Міцкевіча", "Сцяжынкамі Адама Міцкевіча ў Вільні" — вынік вандровак у музей А. Міцкевіча, у дворыкі універсітэта, да помніка паэту. Быў прачытаны даклад "Беларусь у жыцці і творчасці Адама Міцкевіча". Гэта адно з мерапрыемстваў, прысвечаных памяці паэта, якія праводзяцца ў Год А. Міцкевіча.

**Леакадзія МІЛАШ.**
г. Вільнюс.



**НА ЗДЫМКУ: помнік Адаму Міцкевічу ў Вільні.**

# АПОШНІ ЗВАНОК

Нягледзячы на перашкоды і цяжкасці, адраджэнне беларускай дыяспары на Віленшчыне не замірае. Наадварот, узрастае свядомасць і актыўнасць беларускага насельніцтва. Яшчэ адным доказам гэтага з'яўляецца паспяховая праца беларускай сярэдняй школы ў Вільні.

У апошні дзень мая адбылася там "лінейка" — развітальная сустрэча, заканчэнне школьнага года.

Пагода спрыяла. Абліты сонцам зялёны пляц перад будынкам школы запоўнілі школьнікі, бацькі і запрошаныя госці. Многія — у нацыянальных уборах. Нядаўна набытая музычная тэхніка гучна перадавала народныя песні, прыбывалі новыя людзі.

Дакладна ў назначаны час загучаў "Магутны Божа", а пасля пачаліся прамовы і выступленні.

Павіншаваў навучэнцаў і педагогаў пасол Рэспублікі Беларусь у Літве — Яўген Вайтовіч, які падкрэсліў нялёгкае становішча школы і педагогаў, самаадданасць настаўнікаў і адносна добрыя вынікі навучання.

— Жадаю вам быць дастойнымі спадкаемцамі Скарыны, імя якога прысвоена школе, і дабіцца не горшых вынікаў, чым былая Віленская беларуская гімназія! — пажадаў пасол пад дружныя воплескі юнай грамады.

У кароткай прамове прадстаўнік Міністэрства асветы Рэспублікі Беларусь Пяцігор шчыра павіншаваў педагогаў і навучэнцаў з шчаслівым заканчэннем чарговага школьнага года і пажадаў выпускнікам паспяхова здаць экзамены.

Нямала цёплых слоў было сказана ў адрас дырэктара школы Галіны Сівалавай, адной з пачынальніц адраджэння беларускага школьніцтва ў Літве. Яе працавітасць і патрыятызм, адданасць педагагічнай рабоце садзейнічалі колькаснаму і якаснаму росту школы, якая пачыналася з некалькіх дзесяткаў дзетак факультатыву, а сёння ў сярэдняй школе звыш паўтары сотні навучэнцаў!

Хоць гэта няшмат, але, улічваючы матэрыяльныя ды іншыя цяжкасці, усё ж значны рост за адносна кароткі час.

З песнямі, інсцэніроўкамі выступілі вучні. Луналі вясёлыя воклічы і жарты, шматколерныя нацыянальныя ўборы добра ўпісваліся ў майскую зеляніну і бель бяроз. Пад вясёлыя гукі музыкі і песень былі складзены пажаданні матурыстам паспяхова здаць экзамены на сталасць. Спадзяёмся на добрыя вынікі, хоць беларусы ў гэтым годзе пакрыўджаны: усе школы горада здаюць матуральныя экзамены ў сваіх памяшканнях. А беларускія матурысты — у чужых сценах...

Невядома каму за гэта "дзякаваць"...

**А. ЗІНКЕВІЧ.**

ПОШУКІ І ЗНАХОДКІ

# БЕЛАРУСКІЯ ВЁРСТЫ ШАТЛАНДСКАГА ДВАРАНІНА СЕН-КЛЕРА

Цікавы выпадак занатаваны пад 1837 годам. У Вільню завітаў уласнай персонай гасудар імператар Мікалай I, грозны ўладар велізарнай імперыі. Як і належыць, яму прадстаўлена мясцовае дваранства. Сабраліся ўсе вяршкі грамадства. "Прэзентацыя адбылася з раніцы, — запісвае мемуарыстка. — Сярод шляхецкіх мундзіраў трох губерняў стаіць Сен-Клер у маляўнічым уборы шатландскага горца. "Што такое? — шапталася агарошаная шляхта. — Як ён смее! Вось пабачыце, цар загадае вывесці яго з залі" і г. д. А тым часам цар ці не найперш наблізіўся да яго і запытаўся, з кім жанаты, і, нахвальваючы строй, сказаў, што і ён мае права насіць яго, будучы citoyen d'Edinbourg [грамадзянінам Эдынбурга]. "Oui, je sais Sire, que Yous avez cet honneur" [Так, я ведаю, сір, што вам выпаў такі гонар], — адказаў смелы шатландзец, а пераказваючы гэта нам, дадаў: "J'etais trop poli pour lui dire, qu'il fout appartenir á un clan pour porter ce costume" [Я быў занадта ветлівы, каб сказаць яму, што неабходна належаць да якога-небудзь пэўнага клана, каб насіць гэты касцюм]. Такая своеасаблівая фронда.

У тым самым годзе сям'я Габрыелі гасцявала ў Сен-Клераў у багатым маёнтку паблізу Вількаміра (цяпер Укмярге, Літва). Старадаўняе селішча з руінамі замка, які згадваўся яшчэ крыжацкімі храністамі, стаяла на беразе возера. Пад уражаннем паездкі Габрыеля запісала: "У Сен-Клераў старая польская гасціннасць і такая самая гасціннасць шатландская паядналіся. Сардэчнасць жонкі спадарожнічала там пачцівасці мужа, а літоўская шчодрасць англійскаму камфорту. Плавалі па возеры ў ботах з мачтай і ветразямі, якімі кіраваў сам гаспадар, а матросамі былі яго сыночкі, якія проста з калыскі скакалі ў ваду, як качаняты з яйка. Сняданні з вяндлінкай, позція абеды з індыйскімі прыправамі і ростбіфам, крайчым (рэзчыкам) якога быў сам гаспадар, конныя шпацыры і г. д. Словам, былі ў Англіі з дадаткам італьянскага элемента ў спевах мужа і ў палотнах на сценах, намаляваных абодвума малжонкамі".

У мемуарах адлюстраваліся і некаторыя гаспадарчыя навацыі шатландца. Тонкая стылістка, паэтка-арыстакратка ўмела часам спусціцца з нябёсаў высокіх матэрый на грэшную зямлю і занатавала, напрыклад, такое: "...найпрактычнымі былі кампосты накшталт гнаявых ям пры кожным сялянскім двары, куды скідвалі ўсякае смецце, пракладваючы яго глінай і чарназёмам. Была гэта ідэя пана Сен-Клера... Калі швагер намаўляў яго завесці цукраварню і садзіць буракі, ён хапаў жменю вількамірскага лёну і крычаў: "Voilá du sucre, voilá du cafe! voilá tout! [Вось цукар, вось кава! вось усё!]". "Сапраўды, кожны край мае свой род гаспадарання", — разважліва запісала мемуарыстка. Сен-Клер, па ўсім відаць, захапіўся нашым цудоўным ільном, бачыў перспектыўнасць гэтай унікальнай культуры.

У 1841 годзе Сен-Клера прымалі ў Дабраўлянах на сумежжы Смаргоншчыны і Мядзельшчыны. Многія маладыя сямейнікі бачылі сэра Аляксандра ўпершыню, хоць шмат пра яго чулі. Ён быў якраз у добрым гуморы і раскрыўся перад моладдзю ва ўсёй красе. У шатландца абудзіўся "апавядальніцкі запал, і кузінкі, якія не раз з абурэннем чулі ад нас пра своеасаблівыя англійскія выхадкі кузена, былі не ў сілах процістаяць гэтаму патоку і смяяліся ад душы, слухаючы яго вясёлыя і жывыя апавяданні... Усё ў Дабраўлянах набыло англійскі характар: па вечарах ездзілі на конях, самы тлусты адкормлены вол прынесены ў ахвяру, і сам Сен-Клер чараваў над ростбіфам і кроіў яго ля стала спецыяльна навостраным нажом. Найбольшыя і найлепшыя лодкі былі замоўлены на Свірскім возеры ў рыбакоў, кузен прывёз з сабой вуду і выжла. Прыстанню служыла карчма Камёнка на дарозе паміж Свір'ю і Вішневам і прыбрэжны камень, любімае месца адпачынку аўтара "[Літоўскіх] абразкоў" [Ігната Ходзькі], які, едучы гэтай дарогай, заўсёды садзіўся на ім у задуменні і, гледзячы ў сінія далі, прыбеленыя кляштарнымі мурамі, задумаў там свой абразок "Восень у кляштары". Сен-Клер быў апрануты адпаведна воднай прагулцы, мой бацька таксама ўздзеў на галаву вялікі саламяны капялюш. Выжал лапамі абапіраўся на борт лодкі, і так адплылі ад берага з двума моцнымі бурлакамі (стараверамі?) на вёслах. Сен-Клер павесялеў пры відзе возера. Ні супрацьлеглага берага, ні пачатку, ні канца возера не было відаць, а хвалі на ім узняліся, нібы на мініяцюрным моры. Штосьці ў рэшце рэшт у нашым краі нагадала яму яго радзіму! Рыбу ён лавіў не сеткай, а англійскай вудачкай, якой яму здаралася выцягваць і трыццаціфунтовага шчупака. На нашым возеры гэта штука яму, аднак, не ўдалася, ды і сам рыбак чуць не трапіў на маскоўска-паліцэйскі кручок. Паколькі гэтыя навігацыі паўтараліся дзень пры дні, аднойчы, вяртаючыся, нашы панове ўбачылі: на беразе ў поўнай форме стаіць асэсар (прыстаў?), які, аднак, вельмі пакорліва папрасіў у пана Сен-Клера пашпарт, гаворачы, што яму данеслі пра англічаніна, які плавае па возеры і напэўна здымае планы!.. Справа хутка высветлілася, і Сен-Клер вельмі гэтым пацешыўся".

Здаецца, усё было добра ў дабраўлянскім гасцяванні, толькі ў адным выпадку, жадаючы дагадзіць госцю, гаспадары перастараліся. Апранулі мясцовага пастуха ў імправізаваны шатландскі строй (нават пра піхтавую галінку ў шапцы не забыліся), схавалі яго на балконе і загадалі неяк познім пагодлівым вечарам, калі ўсе былі ў зборы, заграць на дудзе-валынцы, любімым інструменце шатландскіх горцаў, у пэўных мадыфікацыях вядомым таксама на Беларусі. Сен-Клер быў спачатку ўражаны, а потым, разабраўшыся, нават зазлаваў. Цэлая гама пачуццяў ад радаснага здзіўлення да поўнага расчаравання і пратэсту! Ён убачыў у гэтым травесці-пераадзяванні карыкатуру на сваю радзіму."Як жа ён кахаў свой край, калі яму і рэха яго было такім мілым, а пародыя — балючай!" — заўважае наша мемуарыстка.

Тым не менш сяброўства дабраўлянцаў з Сен-Клерамі толькі ўмацоўвалася. Да ўсяго сэр Аляксандр быў зачараваны непараўнаным Свірскім возерам. Запіс 1842 года: "У чэрвені з'явіліся Сен-Клеры з маці, двума сынамі і дачкой Вольгай".

На вялікі жаль, працяг мемуараў Габрыелі Пузыны не захаваўся. Таму нашы звесткі пра сувязі гаспадароў Дабраўлян з Сен-Клерамі няпоўныя.

Хацелася б падкрэсліць адну дэталь. З'яўленне паліцэйскага прыстава ў Дабраўлянах з нагоды прыезду туды Сен-Клера было невыпадковым. Бюракраты глядзелі на свет, на жыццёвыя рэаліі зусім не так, як узнёслая паненка. У іх быў свой падыход. Каларытны, неардынарны шатландзец здаваўся царскім уладам падазроным, бо не ўкладваўся ў звычайныя рамкі. Як паказваюць матэрыялы віленскага гістарычнага архіва, яшчэ ў 1840 годзе ў генерал-губернатарскай канцылярыі была заведзена справа пра нагляд за іншаземцам Бовер дэ Сен-Клерам. Справа доўжылася да 1862 года.

Вернемся да пытання, пастаўленага ў пачатку нашых нататак. Хто ж збіраўся ў 1863 годзе ўстаць у шэрагі паўстанцаў Беларусі-Літвы? Няўжо той самы Аляксандр Сен-Клер, які так душэўна паставіўся дваццаць гадоў таму да мастака з народа і на працягу доўгага часу сваёй арыгінальнасцю бударажыў нашы арыстакратычныя салоны ды прымушаў турбавацца бюракратаў? Наўрад ці (улічым хаця б узрост). Хутчэй гэта яго сын Станіслаў, хрэсьбіны якога згадваліся Пузынай.

У адным з апошніх выпускаў "Польскага біяграфічнага слоўніка" ёсць артыкул пра паўстанца 1863 года Станіслава Сен-Клера (1835—1887), які нарадзіўся ва ўжо знаёмым нам маёнтку пад Вількамірам. У слоўніку адзначана, што ён сын шатландца Аляксандра Сен-Клера (Bower de Saint-Clair; 1800—1880) і Пелагеі з Касакоўскіх (1798—1881). Меў двух братоў: Аляксандра (1834—1880), англійскага генеральнага консула ў Ясах, і Фелікса (1839—1897), а таксама сястру Вольгу.

Цікава, што розніца ва ўзросце бацькоў Станіслава тут не такая вялікая, як у мемуарах Пузыны. Хто больш дакладны — невядома. Зрэшты, гэта не мае вялікага значэння, як і тое, што — насуперак мемуарам — старэйшым сынам-першынцам Сен-Клераў у слоўніку прадстаўлены Аляксандр.

Выхоўваўся Стась у Парыжы ў цёткі — знакамітай у свой час арыстакраткі Соф'і з Патоцкіх Кісялёвай, якая закруціла галовы многім знакамітым сучаснікам, у тым ліку Пушкіну (гл. цікавую даведачную кнігу Л. Чарэйскага "Пушкин и его окружение"). Цётка так насілася з пляменнікам, што многія лічылі Станіслава яе сынам. Потым малады Сен-Клер вучыўся ў Лондане. Як капітан англійскай арміі ўдзельнічаў у Крымскай вайне, нейкі час жыў у Літве ў сваякоў Касакоўскіх.

У 1863 годзе — паведамляе згаданы слоўнік — быў паўстанцам у атрадах Лянгевіча і Босака (на тэрыторыі Польшчы). Дададзім ад сябе, што паміж дзейнасцю Лянгевіча і Босака быў вялікі перапынак, калі Сен-Клер і мог звярнуцца да Банольдзі з прапановай сваіх паслуг беларуска-літоўскім паўстанцам.

У тым самым "Польскім біяграфічным слоўніку" знаходзім звесткі пра Юзафа Дамініка Касакоўскага, бацьку Пелагеі. Гады яго жыцця: 1771—1840. У 1793 годзе ажаніўся з Людвікай Патоцкай, якая прынесла ў пасаг Бераставіцкі ключ з 16 вёскамі ў Гродзенскім павеце.

Гэта тая самая Бераставіца, дзе Сен-Клер адкрыў для сябе таленавітасць ліцвінаў-беларусаў, якія і ва ўмовах прыгону імкнуліся да вышыняў культуры.

Дарэчы, асобныя цікавыя звесткі як пра Сен-Клераў, так і пра Бераставіцу прыводзіць блізкі сваяк, вядомы генеалог, знаўца арыстакратычных радаводаў Станіслаў Казімір Касакоўскі (1837—1905). У яго ўспамінах, выдадзеных у Буэнас-Айрэсе і Парыжы ў 1974 годзе (кніга ёсць у Мінску ў акадэмічнай бібліятэцы), гаворыцца, што ў Бераставіцы падчас паўстання 1831 года некалькі тыдняў пасля ўцёкаў з Варшавы жыў царскі брат, вялікі князь Канстанцін Паўлавіч і ў Пелагеі (тады яшчэ паненкі, натуры артыстычна-экзальтаванай) было прадчуванне (кшталту яснабачання) наконт яго блізкай смерці. Сапраўды, праз колькі месяцаў вялікі князь памёр ад халеры.

Некалі Бераставіца належала магнатам Хадкевічам. Тут, у касцёле, пахавана сэрца славутага палкаводца Рэчы Паспалітай пачатку XVII стагоддзя — гетмана Яна Караля Хадкевіча, які з поспехам вадзіў ваяроў ва ўсе бакі свету.

Пра ўсё гэта, вядома ж, не раз чуў шатландскі рыцар Сен-Клер, якому собіла парадніцца з багатым і знатным беларуска-літоўска-польскім магнацкім родам. Беларусь паўставала перад ім як зямля багатых гістарычных традыцый, старажытнай цывілізацыі.

Напаследак дададзім яшчэ, што напярэдадні і ў перыяд паўстання 1863 года Бераставіца была важным асяродкам Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі Каліноўскага. Тут працавалі актывісты арганізацыі Фелікс Ражанскі (каморнік, беларускі паэт) і Ігнат Казлоўскі (малады ксёндз, паходзіў з прыгонных). Ражанскі быў адным з выдаўцоў "Мужыцкай праўды". Пра яго сяброўства з Каліноўскім сястра Кастуся Казіміра Багушэвіч успамінала ў 1905 годзе (да яе звярнуліся тады па звесткі пра Каліноўскага): "Шмат падрабязнасцяў пра святой памяці Канстанціна можна было б атрымаць у пана Фелікса Ражанскага, які ў тыя часы займаў пасаду каморніка ў Вялікай Бераставіцы ў графа Касакоўскага. З ім (Ражанскім) Канстанцін быў у блізкім сяброўстве. Калі Канстанцін бываў дома (у Якушоўцы. — **Г. К.**), той часта ў нас бавіўся, і неаднойчы яны ездзілі разам". Відаць жа, і Каліноўскаму даводзілася не раз бываць у Ражанскага ў Бераставіцы. Не выключана, што тут друкавалася "Мужыцкая праўда", прынамсі асобныя яе нумары.

Шмат хвалюючых загадак і тайнаў яшчэ хавае беларуская зямля.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № 24.**

## «МАСТАК І КНІГА-98»



**Больш за сто работ прадставілі на II Рэспубліканскую выставу-конкурс "Мастак і кніга-98" мастакі, якія працуюць над ілюстрацыяй кніг для дзяцей. Журы вызначыла пераможцаў і адзначыла, што з кожным годам колькасць мастакоў-графікаў папаўняецца маладымі талентамі і гэта станоўча ўплывае на мастацкі ўзровень выданняў. Лепшымі названы работы мастакоў Вячаслава Валынца, Паўла Татарнікава, Рамана Сустава, Эрнеста Пешкава. У экспазіцыі прадстаўлены таксама ілюстрацыі, якія атрымалі высокае прызнанне на прэстыжнай міжнароднай выставе кніжнай графікі "BIB-97" у Браціславе.**



**Арганізавалі выставу Беларуская асацыяцыя кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў, Беларускі саюз мастакоў, Беларуская секцыя міжнароднага савета па дзіцячай кнізе "IBB", а таксама выдавецтвы "Кавалер-Паблішэрс" і "АСАР".**



**НА ЗДЫМКАХ: пераможцы конкурсу (злева направа) Раман СУСТАЎ, Эрнест ПЕШКАЎ, Павел ТАТАРНІКАЎ, Вячаслаў ВАЛЫНЕЦ; ілюстрацыі мастакоў: Мікалай БАЙРАЧНЫ "Хобіт" і Вячаслаў ВАЛЫНЕЦ "Сем вечароў з казкай".**

**Яўген КАЗЮЛЯ, БелТА.**
**Фота аўтара.**

ЮНЫЯ ТАЛЕНТЫ



Вучаніца 4-га класа віцебскай сярэдняй школы № 3 Света БАНДАРЭНКА стала лаўрэатам міжнароднага конкурсу юных піяністаў, які праходзіў у Смаленску.

Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.

УСПАМІНАЙМА ПРА ІХ!

# «ЦЯЖКА ПІСАЦЬ ПРА СЯБЕ»

Гэтыя словы Уладзімір Шахавец напісаў у сваёй аўтабіяграфіі, калі яму было сорак шэсць гадоў... Сапраўды пра сябе не кожнаму пісаць лёгка. А тым часам за спіной у Шахаўца застаўся ўжо такі жыццёвы набытак, пра які іншы гаварыў бы бясконца... Уладзімір Шахавец гэтага не любіў і не надта паважаў гаворку пра сябе ў іншых.

...З Уладзімірам Шахаўцом мы разам вучыліся ў БДУ. Толькі ён канчаў фізмат, а да нас, "філалагінь", у наш інтэрнацкі пакой на Нямізе, ён вельмі часта наведваўся таму, што з намі жыла прыгожая, смяшлівая "геаграфіня" Насцечка з Разані... І сам Валодзя — нязвычна стрыманы і мала гаваркі для студэнцкага побыту — смуглявы, прыгожы, пры невысокім росце ладна падцягнуты, быў надта прывабным жаніхом...

Пасля універсітэта фізік Валодзя Шахавец адразу ж астаўся працаваць у рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва". І гэта было не выпадкова. Да вайны яшчэ яго вершаваныя практыкаванні былі заўважаны і адзначаны самім Аркадзем Куляшовым...

Праўда, "...вайна з яе нечакана аглушальным пачаткам адразу ж перакрэсліла ўсе тыя памкненні ў літаратуру. Доўгая і трывожная зіма сорак першага — сорак другога года, сустрэча з партызанамі, асцярожныя сцежкі сувязнога, халодная сталь вінтоўкі, баі, блакада, паходы, радасць вызвалення, потым фронт, яшчэ не дабітая Германія, рывок на Прагу..."

Праўда, гэтыя падзеі — "пра час і пра сябе" — потым знайшлі адлюстраванне ў аповесцях "Землякі", "Месца ў жыцці", "Будзьце здаровы", "Пасля вяселля", у аповесці для дзяцей "Крылаты дзень"...

А які магутны пласт у літаратуры ўзняў Шахавец сваімі перакладамі на беларускую мову: Лермантаў, Пушкін, Някрасаў, Шэкспір...

І да ўсяго гэтага — работа, работа і работа... У рэдакцыях газет, часопісаў, у выдавецтвах. Не былі яшчэ ўзяты "на ўзбраенне" камп'ютэры. Увесь "банк звестак", як у сапраўды надзейным "банку", трымаўся ў Шахаўцовай галаве. Здаралася, адразу не здолеў аперыраваць неабходнымі "лічбамі і фактамі" дырэктар выдавецтва, чакаў "помачы" сам начальнік Камітэта па друку... Шахавец памятаў усё! Кожную лічбу, кожную дату... Шах — так паважна-зычліва-ўсмешліва звала яго ўсё выдавецтва "Мастацкая літаратура", калі ён быў у нас намеснікам галоўнага рэдактара. Шах... Колькі сяброў у яго было! Праўда, не ўсе яны любілі яго толькі за яго "камп'ютэрную галаву". Была і другая любоў і страсць — да чаркі...

...А побач роіліся паэтычныя вобразы, бачыліся ненапісаныя старонкі. Гучалі галасы герояў задуманых новых кніг...

"Пра сябе цяжка пісаць".

Пра Уладзіміра Шахаўца пісаць і ўспамінаць яго — удзячна.

# Ядвіга БЯГАНСКАЯ

Вось ужо сапраўды: "Куды не трапяць беларусы..." Ядвіга Бяганская нарадзілася ў 1908 годзе ў горадзе Улан-Удэ (Бурацін), у сям'і чыгуначніка-беларуса. На радзіму яна вярнулася разам з бацькамі пасля грамадзянскай вайны. У 1924-м сям'я прыехала да бацькавых братоў на Барысаўшчыну, а праз год пераехала пад Мінск. Бацька ўладкаваўся працаваць на чыгунцы, і неўзабаве сям'я ўжо канчаткова ўсталявалася на жыццё ў Мінску. Тут Ядвіга і скончыла сярэднюю чыгуначную школу, а пасля і літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педфакультэта БДУ. І адразу ж была накіравана ў мінскую школу — "сеяць разумнае, добрае, вечнае" — выкладаць родную і расійскую мову і літаратуру. Сілы былі маладыя, настрой натхнёны, дарога здавалася прасветлай і бясконцай. У будучыню!

Ды нядоўгім было шчасце... У лістападзе 1937 года маладая настаўніца Ядвіга Бяганская была арыштавана. Асуджана на 10 гадоў і саслана на Калыму. У лагер "Эльген" (па-якуцку гэта перакладалася: "мёртвы").

"Дзесяць гадоў правяла я на далёкай Поўначы. Будавала горад Магадан, прымала ўдзел у стварэнні першага калымскага калгаса "Эльген", дзе працавала амаль сем гадоў. Калі не лічыць зімовых перапынкаў, у час якіх працавала ў бальніцы, на лесапавале, у геалагічнай партыі..."

У лістападзе 1947 года ёй было дазволена вярнуцца і жыць на Гомельшчыне. У Мінск яна здолела вярнуцца толькі пасля рэабілітацыі — у 1954 годзе. Працаваць у школе ёй усё ж не было "даверана"... Узялі на працу на радыё, у рэдакцыю для дзяцей і юнацтва. І гэта ўжо зноў здалося шчасцем! Ядвіга Бяганская любіла дзяцей.

Тым часам пісаліся і выходзілі яе кнігі: "Далеко на Севере" (на рускай мове), "Сустрэча з морам", "Жэнеў галубок", "Кожны марыць стаць Калумбам", "Зосіна зорачка", "Сланечнікі", "Над ракой Шушай"... І яшчэ пераклады, пераклады — з польскай Бруна Ясенскага "Палю Парыж", Януша Корчака "Кароль Мацюсь Першы", Элізы Ажэшкі "Хам"... Са славацкай — раманы М. Крно "Я вярнуся жывым", У. Мінача "Жывыя і мёртвыя", К. Ярунковай "Брат маўклівага воўка", Я. Грушоўскага "Яношак"...

Жыццё Ядвігі Бяганскай было нялёгкае. Але прайшла яна наканаваны ёй лёсам шлях мужна і годна і пакінула аб сабе гэтакі ж годны, удзячны ўспамін.

Алена ВАСІЛЕВІЧ.

# «ЯК ЖЫЦЬ — ДЫК ЖЫЦЬ ДЛЯ БЕЛАРУСІ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

артыкулаў з гісторыі беларускай сям'і і іншыя. У гэтым жа раздзеле часопіса ёсць рубрыкі — "Песню бярыце з сабой" і "Паэтычная старонка". У апошняй — побач з лепшымі набыткамі айчыннай паэзіі друкуюцца вершы зорак сусветнай літаратуры. Часопіс не абмінае сваёй увагай ніводнага юбілею нашых літаратараў і мовазнаўцаў, змяшчае крытычныя матэрыялы, а таксама каляндар знамянальных дат і падзей. Як бачым, тэматычная палітра "Роднага слова" надзвычай разнастайная і можа быць цікавай і карыснай не толькі настаўніку, але і кожнаму з нас.

Свой дзесяцігадовы юбілей часопіс змог адзначыць толькі ў траўні. І зрабіў гэта нетрадыцыйна. Як правіла, такія ўрачыстасці не абыходзяцца без кветак, падарункаў, і кожны з нецярпеннем чакае неафіцыйнай часткі. У даным выпадку нічога падобнага не было. З нагоды першай круглай даты 22—23 траўня адбылося пашыранае пасяджэнне рэдакцыйнай калегіі, рэдакцыйнай рады і аўтарскага актыву часопіса. Першы дзень калегіі прайшоў у будынку Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа і насіў рабочы характар. Да ўдзелу ў працы калегіі былі запрошаны педагогі, метадысты, супрацоўнікі іншых педагагічных выданняў і Міністэрства адукацыі, якое, дарэчы, заснавала гэты часопіс, — усе, хто шчыруе на нялёгкай ніве выхавання маладога пакалення. Абмяркоўвалася адно пытанне — аб ролі педагагічных выданняў у правядзенні рэформы школы. Першым прамаўляў намеснік міністра адукацыі Алег Слука. Ён засяродзіў увагу прысутных не столькі на рэформе школы, колькі на яе адсутнасці. На думку Алега Георгіевіча, у цэнтры рэфармавання школы знаходзіцца менавіта роднае слова. Складанасць задачы, якая стаіць перад усімі намі, — найперш, асэнсаваць яго вялікасць. Бо слова якраз і вызначае сутнасць нашага народа, нашай Бацькаўшчыны. Сёння акрэслілася некалькі тэндэнцый у адносінах да мовы. Адны — руплівцы ад беларускага нацыянальнага руху, хочуць, каб роднае слова вельмі хутка ўзбуяла на нашай ніве і, зразумела, стараюцца, працуюць на гэта. Іншыя — стрымліваюць развіццё мовы, нацыянальнай культуры, што выяўляецца ў розных "іпастасях". Супрацьстаянне гэтых тэндэнцый нічога добрага не дае. Алег Слука лічыць, што ёсць яшчэ адна, можа быць, самая светлая пазіцыя ўзыходжання роднага слова, якой прытрымліваецца і рэдакцыя часопіса, — гэта пазіцыя глыбокага навуковага ўсталявання нашай беларускай мовы на аснове здабыткаў гісторыі і з улікам новых тэндэнцый развіцця нацыянальнай культуры. Часопіс "Роднае слова", зазначыў Алег Георгіевіч, вельмі акуратна, далікатна ставіцца да слова як да тонкага інструмента грамадскага выхавання, як да святыні. Не выходзячы за рамкі навукова-метадычнага выдання, ён з'яўляецца добрым дапаможнікам не толькі для настаўнікаў, але і для ўсяго калектыву Міністэрства адукацыі. На яго старонках заўсёды можна знайсці неабходны багаты гістарычны, навуковы, метадычны і літаратурны матэрыял. Алег Георгіевіч даў высокую ацэнку працы галоўнага рэдактара Міхася Шавыркіна і рэдакцыі часопіса: "У нашай Айчыны ёсць вялікая будучыня, таму што ў "Родным слове" акумулюе свой талент вялікая кагорта нацыянальных герояў, герояў ад журналістыкі, герояў ад роднага слова, якія сэрцам успрымаюць беларускую мову і працуюць на ўсталяванне нашай культуры ў новым, XXI стагоддзі вельмі сціпла, мудра". У сваім выступленні намеснік міністра выказаўся і пра наш час, як час складаны, але, можа быць, і ўдалы. Удалы ў тым сэнсе, што наша слова ў XX стагоддзі набрала магутную дынаміку развіцця і ўзыходжання, і цяпер нам нібыта няма патрэбы гаварыць пра яго ўціск ці скасаванне, бо працэс гэты, на яго думку, — увогуле незваротны. Алег Георгіевіч рэзка адмежаваўся ад выказванняў тых дзеячаў нацыянальнай культуры, якія лічаць, што наша мова гібее і ўвогуле памірае. Але большасць прысутных у зале не падзяліла гэтага аптымізму намесніка міністра. Пра гэта яскрава сведчылі пытанні з залы і чарговыя прамоўцы. Быў згаданы загад міністра адукацыі аб скарачэнні на 30 працэнтаў часу на вывучэнне беларускай мовы на непедагагічных факультэтах ВНУ. Настаўніца СШ № 11 горада Салігорска Марыя Мацюкевіч расказала, як гвалтоўна, падманам бацькоў рабіўся перавод на рускую мову навучання шэрагу школ горада. У выніку гэтага з дзевяці засталося толькі дзве беларускія і дзве школы са змешанай мовай навучання — рускай і беларускай. Дацэнт кафедры гісторыі Мінскага педуніверсітэта Васіль Кушнер адзначыў у сваім выступленні важнае значэнне педагагічных выданняў у правядзенні рэформы школы. На жаль, часам гэтыя выданні адыгрываюць адмоўную ролю ў працэсе рэфармавання, калі, напрыклад, з 18-ці артыкулаў толькі чатыры напісаны па-беларуску, як гэта мела месца ў педагагічным выданні Нацыянальнага інстытута адукацыі "Адукацыя і выхаванне" № 4 за 1998 год. Хто змушаў інстытут і ягоных аўтараў пісаць пераважна на рускай мове? На каго яны працуюць і чаму, як кажуць у народзе, ім — закон не пісаны. Такая "телерантнасць" па-беларуску не на карысць роднаму слову. Вось дзе, на думку Васіля Фёдаравіча, павінна праяўляцца наша грамадзянская пазіцыя. Болем за нашу Бацькаўшчыну было прасякнута выступленне доктара філалогіі, прафесара Берасцейскага дзяржаўнага універсітэта Міколы Мішчанчука. "На працягу многіх даваенных, а затым і пасляваенных дзесяцігоддзяў самае духоўнае, самае дарагое, што чалавек уабраў з малаком маці, — замоўчвалася. Мы замоўчвалі самыя патрыятычныя творы Максіма Гарэцкага, лірыку Янкі Купалы 1918—1922 гадоў, яго "Тутэйшых". Нешта падобнае адбываецца і цяпер. З праграмаў школ і ВНУ выключаюцца творы, якія падпітваюць нашу свядомасць, нашу мову і свядомасць тых, хто павінен ведаць пра нас як пра беларусаў. Як можна было выкінуць з вучэбных праграм творчасць Масея Сяднёва ці Ларысы Геніюш. Выключыць з літаратурнага працэсу такую магутную паэтку, якая сказала: "Як жыць — дык жыць для Беларусі, а без яе — зусім не жыць". Залатыя, цудоўныя словы... Вось тут бы нам павучыцца ў братоў нашых старэйшых, расіян. Яны не адкінулі сваіх геніяў, што апынуліся на эміграцыі. Аляксандр Купрын, Іван Бунін, Іосіф Бродскі, Уладзімір Набокаў — эмігранты, але дзеля гэтага мы вывучаем іхнюю творчасць, бо яны — вялікія пісьменнікі. І ў такіх выпадках не трэба блытаць крытэрыі эстэтычныя і палітычныя". Артыкул пра Ларысу Геніюш, які падрыхтаваў Мікола Іванавіч для падручніка, ляжыць у ягоным архіве. Будзем спадзявацца, што гэта — часова.

Міхась Шавыркін, які вёў пасяджэнне калегіі, увесь час нагадваў выступоўцам пра асноўную тэму гаворкі. І, на наш погляд, абмеркаванне ролі педагагічных выданняў у рэформе школы знайшло сваё лагічнае завяршэнне ў выступленні загадчыка кафедры гісторыі беларускай літаратуры БДУ Уладзіміра Кароткага. Усялякія разважанні пра рэформу школы сёння ён назваў пустой тратай часу і энергіі вучонага, адхіленнем практычных работнікаў народнай асветы ад нармальнай штодзённай працы. Рана гаварыць пра рэформу, калі не створаны ўмовы для фундаментальных прыкладных даследаванняў, няма падручнікаў, не выпрацаваны аніякія канцэпцыі. Чамусьці беларусам уласціва рабіць усё наадварот, пачынаць з канца. На думку Уладзіміра Кароткага, спачатку нам трэба стварыць добрую аўру для ўспрыняцця культурных здабыткаў нацыі. Шлях да гэтага ляжыць праз выхаванне са школьнай парты людзей, здольных успрыняць ідэі старажытнай гісторыі Беларусі XI—XIV стагоддзяў. Неразуменне гэтых ідэй прыводзіць да таго, што ў школьных праграмах сустракаюцца такія рэчы, якія не можа растлумачыць ні сам настаўнік, ні, тым больш, успрыняць, зразумець школьнік. І часам здараецца, што па віне школы лепшыя вучні аказваюцца за парогам ВНУ. Таму паміж вышэйшай навукай, навукай сярэдняй спецыяльнай адукацыі і школай павінны існаваць цесная сувязь і супрацоўніцтва. Неацэнную дапамогу ўсім нам тут можа аказаць і часопіс "Роднае слова".

"Роднае слова" на працягу ўсіх дзесяці гадоў узначальвае Міхась Шавыркін. За гэты час двойчы абнаўляўся калектыў рэдакцыі. І толькі Міхась Шавыркін нязменна нясе па жыцці гэты нялёгкі крыж. Пад яго кіраўніцтвам пабачылі свет 125 нумароў часопіса. Апошні — юбілейны. Тут апублікаваны віншаванні міністра адукацыі Васіля Стражава, старшыні Дзяржкамітэта па друку Міхаіла Падгайнага, міністра культуры Аляксандра Сасноўскага, а таксама педагагічных часопісаў і газет, музеяў. Іх атрымала рэдакцыя ў студзені месяцы бягучага года, на які і прыпадаў гэты юбілей. У 125-м нумары "Роднага слова" падсумоўвае пройдзены часопісам шлях Міхась Шавыркін. Не адхіляючыся ад абранага курсу, накіраванага на выхаванне гарманічна развітой асобы, часопіс пастаянна звярае свае пазіцыі з падзеямі, якія адбываюцца ў грамадстве. І зараз сваёй галоўнай задачай калектыў часопіса лічыць выхаванне такой асобы, якая "адчувае і выяўляе сябе свядомай часцінкай Сусвету і застаецца неадлучнай ад краю, дзе нарадзілася і дзейнічае."

Ірына ЛЯКСЕЕВА.

КАНІКУЛЫ, КАНІКУЛЫ

# ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ЛЕТА!





**У дзіцячым аздараўленчым комплексе "Зялёны бор", што ў Салігорскім раёне, адкрылася летняя змена. Амаль 500 дзяцей з раёнаў радыяцыйнага забруджвання Гомельскай і Мінскай абласцей пройдуць тут курс аздараўлення і лячэння пад наглядам урачоў. База размешчана ў маляўнічым сасновым бары, паблізу ракі Случ. Гаючае паветра, узмоцненае харчаванне, фізкультура, аздараўленчы комплекс з басейнам, спелеапалаты для лячэння бронхаў — усё гэта дапаможа ўмацаваць здароўе дзяцей, а акрамя гэтага разнастайная культурная праграма зробіць адпачынак дзяцей радасным, цікавым, вясёлым, захапляючым. Адчуванне радасці жыцця — галоўная аздараўленчая таблетка, лічаць урачы ў "Зялёным бары".**



**НА ЗДЫМКАХ: радуюцца адпачынку школьнікі з Гомельскай і Мінскай абласцей; у басейне; у спелеапалаце лечаць захворванні дыхальных шляхоў.**

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БелТА.**

# З РОДУ МІКУЛЬЧЫКАЎ. ПУХАВІЦКІХ

Міжрэчча (праўда, гаворачы па-руску, на трасянцы, той-сёй мо і не зразумее, што размова пра Междурэчча — Междуречье) — вёска на Пухаўшчыне вядомая. Знаходзіцца яна на рацэ Волма пры ўпадзенні яе ў Свіслач. Таму, відаочна, і назва такая — Міжрэчча. Прыгожыя тут мясціны. Стромкія, абрывістыя берагі ў Волмы. Падняцца супраць цячэння па рацэ — такія ж прыгожыя краявіды, што і ля самога Міжрэчча. І прытокі ў Волмы ўжо ў чэрвеньскім баку з досыць прыгожымі назвамі — Вожа, Гаць, Чэрвенка, Слоў... Нездарма песенная, багатая на яскравае, прыгожае слоўца ўся наша старонка. І лясны, памежны пухавіцка-чэрвеньскі край — таксама.

Больш ведаючы сучасную літаратуру, мастацкую гісторыю Пухаўшчыны, Ігуменшчыны (Ігумен — колішняя назва сучаснага Чэрвеня), мы рэдка зазіраем у мінуўшчыну. А між іншым, XIX стагоддзе ў гэтай старонцы было досыць насычаным. Сем'і Ельскіх, Манюшкаў (дарэчы, частка маёнткаў бацькі Станіслава Манюшкі знаходзілася ў пухавіцкай старонцы), іншых асветнікаў прыцягвалі да сябе самых розных асоб. Меней мы згадваем іншыя імёны. Асабліва — людзей, што выйшлі ў вялікі свет з ніжэйшых сацыяльных груп.

Адзін з такіх прыкладаў — лёс Аляксандра Мікульчыка. Спярша зазірнём у "Энцыклапедыю літаратуры і мастацтва Беларусі". Аляксандру Мікульчыку прысвечаны асобны артыкул: "...рускі паэт-рабочы пач. 20 ст. Паводле некаторых звестак, жыў у Мінску, працаваў наборшчыкам у друкарні газ. "Северо-Западный край", у якой з 1905 змяшчаў свае вершы. Друкаваўся і ў газ. "Голос провинции", "Полесье" і інш. Вершы "Чаму ў гэту ноч не магу я заснуць" і "Дзякуй! Сціхлі душэўныя мукі" (студз. — люты 1906) апубл. з паметай: "Мінскі астрог". Выдаў зб. "Вершы рабочага" (СПб., 1906). Змешчаны яго творы ў кнігах "Зборнік маладых пісьменнікаў" (Кіеў, 1911), "Зборнік вершаў" (Кіеў, 1913, з Д. Буцяевым і Г. Каранеўскім). Пісаў пра цяжкае жыццё рабочых, выяўляў іх рэв. імкненні ("Не вер ворагам", "Песня каваля", "Вясна" і інш.). Пазнейшыя вершы прасякнуты настроямі тугі".

Вось і ўвесь артыкул. Дык пры чым жа тут Пухаўшчына? Няўжо толькі з-за таго, што якраз у Пухавіцкім раёне пражываюць Мікульчыкі?! Вось і генерал-лейтэнант у адстаўцы Яўген Мікульчык — ураджэнец вёскі Міжрэчча, сённяшні мінчанін. Хаця той жа Яўген Васільевіч расказаў два цікавыя эпізоды. Першы — з яго службы ў Прыкарпацкай ваеннай акрузе. Блукаючы па Лычакаўскіх могілках у Львове, Мікульчык сустрэўся са сваім прозвішчам. Што цікава, пахаваны былі на Лычакаўскіх Мікульчыкі, якія нарадзіліся ў XIX стагоддзі. Трое Мікульчыкаў — відаочна, сталыя жыхары Львова. І другі эпізод. Той жа Яўген Мікульчык, працуючы ў ядомым архіве ў Падольску, знайшоў даныя на паўтара дзесятка франтавікоў Мікульчыкаў, беларусаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. І не толькі пухавіцкія Мікульчыкі, але і ўраджэнцы Гомельшчыны былі сярод тых франтавікоў.

А што ж да рабочага паэта, то зусім нядаўна выдадзены чатырохтомнік "Нарысы па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей" сведчыць наступнае: Аляксандр Мікульчык, паэт, аўтар газеты "Правда", народжаны ў Пухавіцкай воласці Ігуменскага павета. Адзін радок. Болей — нічога. Але ўжо і гэтага дастаткова, каб знаць: сапраўды, рускі паэт Аляксандр Мікульчык — радня пухавіцкім Мікульчыкам. Значыць, далейшы пошук павінен ісці ў Міжрэччы і яго ваколіцах.

Другі накірунак — архіўныя, бібліятэчныя доследы. Публікацыі пачатку стагоддзя, тым болей асобныя выданні, знайсці можна, пэўна ж, не ў кожнай бібліятэцы. Але з часам пошук, перакананы, да нечага павінен прывесці. І стане тады болей абсяжнай гісторыя пухавіцкай старонкі, пабагацее яшчэ на адну постаць.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

ДЛЯ ТЫХ, ХТО ЛЮБІЦЬ ПЕСНЮ

# ТАМ КАЛЯ МЛЫНА

**Запіс Р. ШЫРМЫ Апрацоўка А. САПОЖНІКАВА**




Там каля млына цвіла каліна.
Дзе ж тая дзяўчына, што мяне любіла? / 2 р.

Не так любіла, як жалавала,
Купіла коніка, падаравала. / 2 р.

А той конічак вельмі шкодніва,
Вытаптаў рутаньку, як пастаўнічак. / 2 р.

Не люблю хрэну, ні яго цвету,
Не люблю старога, на што мне гэта? / 2 р.

Толькі я люблю мёд салодзенькі,
Люблю я хлопчыка, бо ён малодзенькі. / 2 р.

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 835 экз. Індэкс 63854. Зак. 1058.
Падпісана да друку 22. 06. 1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.